

# ВЕДАМАСЦІ

## ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

5 лютага 1993 г. № 5—6(79—80) Выдаюцца з 1990 г.

ЗМЕСТ

38. Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь.

# 38 Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь*

## Глава I
## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

Артыкул 1. **Задачы заканадаўства аб працы**

Задачамі заканадаўства аб працы з'яўляюцца:

устанаўленне і абарона працоўных правоў работнікаў;

развіццё сацыяльнага партнёрства паміж работнікамі і наймальнікамі;

садзейнічанне росту прадукцыйнасці працы і паляпшэнню якасці работы;

умацаванне дысцыпліны працы.

Артыкул 2. **Сфера дзеяння заканадаўства аб працы**

Заканадаўства аб працы рэгулюе працоўныя адносіны, заснаваныя на працоўным дагаворы (артыкул 15), а таксама адносіны, звязаныя з:

1) удзелам работнікаў і іх прадстаўнікоў у кіраванні прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі і ў арганізацыі працы;

2) дзейнасцю прафсаюзаў і вядзеннем калектыўных перагавораў;

3) прафесіянальнай падрыхтоўкай работнікаў на вытворчасці;

4) забеспячэннем занятасці грамадзян;

5) кантролем і наглядам за выкананнем працоўнага заканадаўства;

6) разглядам працоўных спрэчак.

Працоўныя і звязаныя з імі адносіны, заснаваныя на членстве ў кааператывах, прадпрыемствах і таварыствах калектыўных форм уласнасці, рэгулююцца заканадаўствам аб працы. Іншае (за выключэннем норм, якія пагаршаюць становішча членаў кааператываў, прадпрыемстваў і таварыстваў у параўнанні з заканадаўствам аб ахове працы, аб гарантыях жанчынам, інвалідам і непаўналетнім, а таксама аб плацяжах

---

* *Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Законам Рэспублікі Беларусь ад 23 чэрвеня 1972 года, са змяненнямі і дапаўненнямі, унесенымі Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па стану на 15 снежня 1992 года.*

*Апублікаваны ў газетах: «Народная газета» — 28 студзеня 1993 года, «Звязда» — 17 лютага 1993 года.*

і ўзносах па сацыяльнаму страхаванню, пенсіённаму забеспячэнню і садзейнічанню занятасці) можа ўстанаўлівацца ва ўстаноўчых дакументах і лакальных актах гэтых кааператываў, прадпрыемстваў і таварыстваў.

Не падпадаюць пад дзеянне працоўнага заканадаўства адносіны ў сувязі з ажыццяўленнем:

1) прадпрымальніцкай дзейнасці кіраўніком прадпрыемства, калі ён на аснове кантракта з уласнікам маёмасці або ўпаўнаважанай ім асобай (органам) надзелены правамі і абавязкамі і нясе адказнасць, устаноўленую для прадпрымальніка ў адпаведнасці з заканадаўствам аб прадпрымальніцтве;

2) абавязкаў членаў назіральных і іншых саветаў (праўленняў), а таксама органаў кантролю прадпрыемстваў, суполак і таварыстваў, калі гэта дзейнасць не выходзіць за рамкі выканання адпаведных даручэнняў;

3) абавязацельстваў, якія ўзнікаюць на аснове дагавора падраду і іншых дагавораў, прадугледжаных у Грамадзянскім кодэксе Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 3. **Крыніцы рэгулявання працоўных і звязаных з імі адносін**

Крыніцамі рэгулявання працоўных і звязаных з імі адносін (артыкул 2) з'яўляюцца:

1) Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь;

2) гэты Кодэкс і іншыя акты працоўнага заканадаўства;

3) калектыўныя дагаворы, пагадненні, іншыя лакальныя нарматыўныя акты, прынятыя ў адпаведнасці з заканадаўствам;

4) працоўныя дагаворы.

Артыкул 4. **Суадносіны заканадаўства аб працы Рэспублікі Беларусь з міжнародным правам**

Калі міжнародным дагаворам (пагадненнем, канвенцыяй), у якім удзельнічае Рэспубліка Беларусь, устаноўлены іншыя правілы ў параўнанні з прадугледжанымі ў яе заканадаўстве аб працы, то прымяняюцца правілы гэтага дагавора (пагаднення, канвенцыі).

Артыкул 5. **Несапраўднасць умоў дагавораў аб працы, якія пагаршаюць становішча работнікаў у параўнанні з заканадаўствам**

Умовы дагавораў аб працы, якія пагаршаюць становішча работнікаў у параўнанні з заканадаўствам аб працы, з'яўляюцца несапраўднымі. У калектыўных і працоўных дагаворах (пагадненнях) могуць устанаўлівацца ўмовы, якія паляпшаюць становішча работнікаў у параўнанні з заканадаўствам.

Наймальнік мае права па ўзгадненню з працоўным калектывам устанаўліваць за кошт уласных сродкаў дадатковыя ў параўнанні з заканадаўствам працоўныя і сацыяльна-бытавыя льготы работнікам.

Артыкул 6. **Асноўныя правы работнікаў**

Работнікі маюць права на:

1) працу і свабоднае распараджэнне сваімі здольнасцямі да працы;

2) свабоднае аб'яднанне ў прафсаюзы;

3) калектыўнае вядзенне перагавораў;

4) забастоўку;

5) сходы;

6) удзел у кіраванні прадпрыемствам;

7) частку прыбытку прадпрыемства ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам і статутам;

8) здаровыя і бяспечныя ўмовы працы;

9) павагу іх прыватнага жыцця і асабістай годнасці;

10) справядлівае ўзнагароджанне за працу і яго своечасовае атрыманне;

11) штодзённы і штотыднёвы адпачынак, святочныя дні і водпускі ў размерах не ніжэй прадугледжаных гэтым Кодэксам;

12) сацыяльнае страхаванне, пенсіённае забеспячэнне і гарантыі ў выпадку прафесіянальнага захворвання, інваліднасці і страты работы.

Артыкул 6[1]. **Забарона дыскрымінацыі пры прыёме на работу і ў працоўных адносінах**

Забараняецца дыскрымінацыя пры прыёме на работу і ў працоўных адносінах у залежнасці ад нацыянальнасці, полу, расы, мовы, рэлігійных або палітычных поглядаў, удзелу або няўдзелу ў прафсаюзах або іншых грамадскіх аб'яднаннях, а таксама недахопаў фізічнага або псіхічнага характару, якія не перашкаджаюць выкананню адпаведных працоўных абавязкаў.

Артыкул 6[2]. **Вылічэнне тэрмінаў**

Ход тэрмінаў, з якімі гэты Кодэкс звязвае ўзнікненне, змяненне або спыненне праваадносін, пачынаецца на наступны

дзень пасля каляндарнай даты, якой вызначаны яго пачатак.

Тэрміны, якія вылічваюцца гадамі, месяцамі, тыднямі, заканчваюцца ў адпаведнае чысло апошняга года, месяца або тыдня тэрміну. У тэрмін, які вылічваецца ў каляндарных тыднях або днях, уключаюцца і нерабочыя дні.

Калі апошні дзень тэрміну прыпадае на нерабочы дзень, то днём заканчэння тэрміну лічыцца бліжэйшы наступны за ім рабочы дзень.

## Глава II
## КАЛЕКТЫЎНЫ ДАГАВОР

### Артыкул 7. **Калектыўны дагавор**

Заключэнне, выкананне і спыненне калектыўнага дагавора ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Артыкулы 8—14 выключаны.

## Глава III
## ПРАЦОЎНЫ ДАГАВОР

### Артыкул 15. **Змест і бакі працоўнага дагавора**

Працоўны дагавор — гэта пагадненне паміж работнікам і наймальнікам (наймальнікамі), па якому работнік абавязваецца выконваць работу па пэўнай адной або некалькіх прафесіях, спецыяльнасцях або пасадах адпаведнай кваліфікацыі і падпарадкоўвацца ўнутранаму працоўнаму распарадку, а наймальнік абавязваецца выплачваць работніку заработную плату і забяспечваць умовы працы, прадугледжаныя бакамі, заканадаўствам аб працы і калектыўным дагаворам.

Наймальнікамі з'яўляюцца прадпрыемствы, установы, арганізацыі, таварыствы, суполкі, кааператывы незалежна ад назвы і форм уласнасці (іх аб'яднанні і адасобленыя падраздзяленні), прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, грамадзяне, якім заканадаўствам прадастаўлена права заключэння і спынення працоўнага дагавора з работнікамі.

Работнікамі з'яўляюцца асобы, якія заключылі працоўны дагавор з наймальнікам.

### Артыкул 16. **Забарона неабгрунтаванай адмовы асобным грамадзянам у заключэнні працоўнага дагавора**

Забараняецца неабгрунтаваная адмова ў заключэнні працоўнага дагавора з грамадзянамі, накіраванымі на работу



дзяржаўнай службай занятасці ў лік брані, а таксама ў іншых выпадках, прама прадугледжаных у заканадаўстве, калектыўных або іншых дагаворах.

Па патрабаванню грамадзяніна або зацікаўленага органа наймальнік абавязаны паведаміць ім аб матывах адмовы ў пісьмовай форме.

### Артыкул 17. **Тэрмін працоўнага дагавора**

Працоўныя дагаворы заключаюцца на:

1) няпэўны тэрмін;

2) пэўны тэрмін;

3) час выканання пэўнай работы.

Не дапускаецца заключэнне тэрміновага працоўнага дагавора (пункты 2 і 3 часткі першай гэтага артыкула) для выканання работы, якая па свайму зместу мае пастаянны характар, за выключэннем выпадкаў, прама прадугледжаных гэтым Кодэксам, а таксама калі ініцыятыва ў заключэнні такога дагавора зыходзіць ад работніка.

### Артыкул 18. **Заключэнне працоўнага дагавора**

Працоўны дагавор можа быць заключаны ў вуснай або пісьмовай форме.

Прыём на работу афармляецца загадам (распараджэннем) наймальніка. У загадзе (распараджэнні) павінна быць указана дакладная назва работы (пасады), на якую прыняты работнік, у адпаведнасці з тарыфна-кваліфікацыйным даведнікам або штатным раскладам. Загад (распараджэнне) аб'яўляецца работніку пад распіску.

Фактычнае дапушчэнне да работы лічыцца заключэннем працоўнага дагавора незалежна ад таго, ці быў прыём на работу належным чынам аформлены.

Работніку, запрошанаму на работу ў парадку пераводу ад аднаго наймальніка да другога па ўзгадненню паміж імі, не можа быць адмоўлена ў заключэнні працоўнага дагавора.

### Артыкул 18[1]. **Працоўны дагавор з работнікамі, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту і маюць права на поўную пенсію**

З работнікамі, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў) і маюць права на поўную пенсію, наймальнік можа:

1) захаваць працоўныя адносіны на няпэўны тэрмін;

2) заключыць па пагадненню бакоў тэрміновы працоўны

дагавор (да двух гадоў) з далейшым яго прадаўжэннем або перазаключэннем у тым жа парадку;

3) скасаваць працоўны дагавор у адпаведнасці з пунктам $1^1$ артыкула 33 гэтага Кодэкса.

Частка першая гэтага артыкула не прымяняецца да работнікаў, у адносінах да якіх заканадаўствам або калектыўным дагаворам устаноўлены іншыя правілы захавання, змянення або спынення працоўнага дагавора ў залежнасці ад пенсіённага ўзросту.

Артыкул 19. **Забарона патрабаваць пры прыёме на работу дакументы, акрамя прадугледжаных заканадаўствам**

Пры прыёме на работу забараняецца патрабаваць ад грамадзян дакументы, акрамя прадугледжаных заканадаўствам.

Артыкул 20. **Абмежаванне сумеснай службы сваякоў**

Забараняецца сумесная служба на адным і тым жа дзяржаўным прадпрыемстве, ва ўстанове, арганізацыі асоб, якія знаходзяцца паміж сабой у блізкай роднасці або сваяцтве (бацькі, муж і жонка, браты, сёстры, сыны, дочкі, а таксама браты, сёстры, бацькі і дзеці мужа і жонкі), калі іх служба звязана з непасрэднай падпарадкаванасцю або падкантрольнасцю аднаго з іх другому.

У неабходных выпадках выключэнні з гэтага правіла могуць устанаўлівацца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 21. **Выпрабаванне пры прыёме на работу**

Пры заключэнні працоўнага дагавора можа быць абумоўлена пагадненнем бакоў выпрабаванне з мэтай праверкі адпаведнасці работніка рабоце, якая яму даручаецца. Умова аб выпрабаванні павінна быць указана ў загадзе (распараджэнні) аб прыёме на работу.

У перыяд выпрабавання на работнікаў цалкам распаўсюджваецца заканадаўства аб працы.

Выпрабаванне не ўстанаўліваецца пры прыёме на работу: асоб, якія не дасягнулі васемнаццаці гадоў; маладых рабочых па заканчэнні прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў; маладых спецыялістаў па заканчэнні вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў; інвалідаў. Выпрабаванне не ўстанаўліваецца таксама пры прыёме на работу ў іншую мясцовасць і пры пераводзе на работу да іншага наймальніка і ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам.



Артыкул 22. **Тэрмін выпрабавання пры прыёме на работу**

Тэрмін выпрабавання, калі іншае не прадугледжана заканадаўчымі актамі, не можа перавышаць шасці месяцаў, а пры прыёме на некваліфікаваную работу — двух тыдняў.

У выпрабавальны тэрмін не залічваюцца перыяд часовай непрацаздольнасці і іншыя перыяды, калі работнік адсутнічаў на рабоце па ўважлівых прычынах.

Артыкул 23. **Вынік выпрабавання пры прыёме на работу**

Калі тэрмін выпрабавання скончыўся, а работнік працягвае работу, ён лічыцца вытрымаўшым выпрабаванне, і наступнае спыненне працоўнага дагавора дапускаецца толькі на агульных падставах.

Пры нездавальняючым выніку выпрабавання наймальнік мае права скасаваць працоўны дагавор з работнікам.

Артыкул 24. **Забарона патрабаваць выканання работы, не абумоўленай працоўным дагаворам**

Наймальнік не мае права патрабаваць ад работніка выканання работы, не абумоўленай працоўным дагаворам.

Артыкул 25. **Перавод на іншую работу. Перамяшчэнне. Змяненне істотных умоў працы**

Перавод на іншую работу ў таго ж наймальніка, а таксама перавод на работу да іншага наймальніка або ў іншую мясцовасць, хоць бы разам з наймальнікам, дапускаецца толькі са згоды работніка, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных у артыкулах 26 і 27 гэтага Кодэкса і іншых заканадаўчых актах.

Не лічыцца пераводам і не патрабуе згоды работніка яго перамяшчэнне ў таго ж наймальніка на іншае рабочае месца, у іншае структурнае падраздзяленне ў той жа мясцовасці, даручэнне работы на іншым механізме або агрэгаце ў межах спецыяльнасці, кваліфікацыі або пасады, абумоўленай працоўным дагаворам. Наймальнік не мае права перамяшчаць работніка на работу, супрацьпаказаную яму па стану здароўя.

У сувязі з абгрунтаванымі вытворчымі, арганізацыйнымі або эканамічнымі прычынамі дапускаецца змяненне істотных умоў працы пры працягу работы па той жа спецыяльнасці, кваліфікацыі або пасадзе. Аб змяненні істотных умоў працы — сістэм і велічынь аплаты працы, ільгот, рэжыму работы, устанаўлення або адмены няпоўнага рабочага часу, сумяшчэння прафесій, змянення разрадаў, назвы пасад і ін-

шых — работніку павінна быць паведамлена не пазней чым за адзін месяц.

Калі ранейшыя істотныя ўмовы працы не могуць быць захаваны, а работнік не згодны на працяг работы ў новых умовах, то працоўны дагавор спыняецца па пункту 6 артыкула 29 гэтага Кодэкса.

Артыкул 26. **Часовы перавод на іншую работу ў выпадку вытворчай неабходнасці**

У выпадку вытворчай неабходнасці для наймальніка ён мае права пераводзіць работнікаў на тэрмін да аднаго месяца на не абумоўленую працоўным дагаворам работу (у тым ліку да іншага наймальніка), але ў той жа мясцовасці, з аплатай працы па выконваемай рабоце, але не ніжэй сярэдняга заработку па ранейшай рабоце.

Такі перавод дапускаецца для прадухілення стыхійнага бедства, вытворчай аварыі або неадкладнага ўстаранення іх вынікаў, прадухілення няшчасных выпадкаў, а таксама пры іншых абставінах, прадугледжаных калектыўным дагаворам.

Артыкул 27. **Часовы перавод на іншую работу ў выпадку прастою**

У выпадку прастою работнікі пераводзяцца з улікам іх спецыяльнасці і кваліфікацыі на іншую работу ў таго ж наймальніка на ўвесь час прастою або да другога наймальніка, але ў той жа мясцовасці, на тэрмін да аднаго месяца. Пры пераводзе на ніжэйаплатную работу з прычыны прастою за работнікамі, якія выконваюць нормы выпрацоўкі, захоўваецца сярэдні заработак па ранейшай рабоце, а за работнікамі, якія не выконваюць нормы або пераведзены на пачасова аплатную работу, захоўваецца іх тарыфная стаўка (аклад).

Артыкул 28. **Недапушчальнасць пераводу работніка на работу, супрацьпаказаную яму па стану здароўя**

Не дапускаецца перавод работніка на работу, супрацьпаказаную яму па стану здароўя.

Артыкул 29. **Падставы спынення працоўнага дагавора**

Падставамі спынення працоўнага дагавора з'яўляюцца:

1) пагадненне бакоў;

2) заканчэнне тэрміну (пункты 2 і 3 артыкула 17), акрамя выпадкаў, калі працоўныя адносіны фактычна працягваюцца і ні адзін з бакоў не запатрабаваў іх спынення;



3) прызыў або паступленне работніка на ваенную службу;

4) скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве работніка (артыкулы 31 і 32) або наймальніка (артыкул 33);

5) перавод работніка з яго згоды да іншага наймальніка або пераход на выбраную пасаду;

6) адмова работніка ад пераводу на работу ў іншую мясцовасць разам з наймальнікам, а таксама адмова ад працягу работы ў сувязі са змяненнем істотных умоў працы;

7) уступленне ў законную сілу прыгавору суда, якім работнік асуджаны да пакарання, якое выключае працяг дадзенай работы.

Перадача прадпрыемства, установы, арганізацыі з падпарадкавання аднаго органа ў падпарадкаванне другога не спыняе дзеяння працоўнага дагавора. Пры змене ўласніка маёмасці і рэарганізацыі (зліцці, далучэнні, раздзяленні, выдзяленні, пераўтварэнні) прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый працоўныя адносіны са згоды работніка працягваюцца; спыненне ў гэтых выпадках працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка магчыма толькі пры скарачэнні колькасці або штату работнікаў.

Артыкул 30. **Працяг дзеяння тэрміновага працоўнага дагавора на няпэўны тэрмін**

Калі па заканчэнні тэрміну працоўнага дагавора (пункты 2 і 3 артыкула 17) працоўныя адносіны фактычна працягваюцца і ні адзін з бакоў не запатрабаваў іх спынення, то дзеянне дагавора лічыцца працягнутым на няпэўны тэрмін.

Артыкул 31. **Скасаванне працоўнага дагавора, заключанага на няпэўны тэрмін, па ўласнаму жаданню работніка**

Работнік мае права скасаваць працоўны дагавор, заключаны на няпэўны тэрмін, папярэдзіўшы аб гэтым наймальніка пісьмовай заявай за адзін месяц. Па заканчэнні тэрміну папярэджання работнік мае права спыніць работу, а наймальнік абавязаны выдаць яму працоўную кніжку і правесці разлік.

Па пагадненню бакоў, а таксама ў выпадках, прадугледжаных у калектыўным дагаворы, працоўны дагавор можа быць скасаваны да заканчэння тэрміну папярэджання.

Работнік мае права да заканчэння тэрміну папярэджання пісьмова адклікаць сваю заяву, калі на яго месца не запрошаны іншы работнік, якому ў адпаведнасці з заканадаўствам не можа быць адмоўлена ў заключэнні працоўнага дагавора.

Пры наяўнасці акалічнасцей, якія выключаюць або значна

абцяжарваюць працяг работы (стан здароўя, пенсіённы ўзрост, радыеактыўнае забруджанне тэрыторыі і іншыя), скасаванне працоўнага дагавора праводзіцца ў тэрмін, указаны ў заяве работніка.

Артыкул 32. **Скасаванне тэрміновага працоўнага дагавора па патрабаванню работніка**

Тэрміновы працоўны дагавор (пункты 2 і 3 артыкула 17) падлягае скасаванню датэрмінова па патрабаванню работніка ў выпадку яго хваробы або інваліднасці, што перашкаджаюць выкананню работы па дагавору, парушэння наймальнікам заканадаўства аб працы, калектыўнага або працоўнага дагавора і па іншых уважлівых прычынах.

Артыкул 33. **Скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка**

Працоўны дагавор, заключаны на няпэўны тэрмін, а таксама тэрміновы працоўны дагавор да заканчэння тэрміну яго дзеяння могуць быць скасаваны наймальнікам толькі ў выпадках:

1) ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі, спынення дзейнасці прадпрымальніка, скарачэння колькасці або штату работнікаў;

1[1]) наяўнасці ў работніка, які дасягнуў пенсіённага ўзросту, права на поўную пенсію, калі з ім не заключаны тэрміновы працоўны дагавор у адпаведнасці з артыкулам 18[1] гэтага Кодэкса;

2) выяўленай неадпаведнасці работніка займаемай пасадзе або выконваемай рабоце з прычыны недастатковай кваліфікацыі або стану здароўя, якія перашкаджаюць працягу дадзенай работы;

3) сістэматычнага невыканання работнікам без уважлівых прычын абавязкаў, ускладзеных на яго працоўным дагаворам або правіламі ўнутранага працоўнага распарадку, калі да работніка раней прымяняліся меры дысцыплінарнага або грамадскага спагнання;

4) прагулу (у тым ліку адсутнасці на рабоце больш трох гадзін на працягу рабочага дня) без уважлівых прычын;

5) няяўкі на работу на працягу больш чатырох месяцаў запар з прычыны часовай непрацаздольнасці, не лічачы водпуску па цяжарнасці і родах, калі заканадаўствам не ўстаноўлены больш працяглы тэрмін захавання месца работы (пасады) пры пэўным захворванні. За работнікамі, якія страцілі працаздольнасць у сувязі з працоўным калецтвам або прафесіянальным захворваннем, месца работы (пасада) захоўваюцца да аднаўлення працаздольнасці або ўстанаўлення інваліднасці;



6) аднаўлення на рабоце работніка, які раней выконваў гэту работу;

7) з'яўлення на рабоце ў нецвярозым стане, стане наркатычнага або таксічнага ап'янення;

8) учынення па месцы работы крадзяжу маёмасці наймальніка, устаноўленага ўступіўшым у законную сілу прыгаворам суда або пастановай органа, у кампетэнцыю якога ўваходзіць накладанне адміністрацыйнага спагнання.

Звальненне па падставах, указаных у пунктах 1, 2 і 6 гэтага артыкула, дапускаецца, калі немагчыма перавесці работніка, з яго згоды, на іншую работу (у тым ліку з пераабучэннем).

Не дапускаецца звальненне работніка ў перыяд часовай непрацаздольнасці (акрамя звальнення па пункту 5 гэтага артыкула) і ў перыяд знаходжання работніка ў водпуску, за выключэннем выпадкаў поўнай ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі, спынення дзейнасці прадпрымальніка.

Пры скасаванні працоўнага дагавора ў адпаведнасці з пунктам 1 гэтага артыкула наймальнік абавязаны не менш чым за два месяцы да звальнення, калі больш працяглыя тэрміны не прадугледжаны ў калектыўным дагаворы, пісьмова папярэдзіць работніка, а таксама паведаміць дзяржаўнай службе занятасці аб вызваленні работніка, якое мае адбыцца, з указаннем яго прафесіі, спецыяльнасці, кваліфікацыі і велічыні аплаты працы.

У перыяд тэрміну папярэджання работнік выконвае свае працоўныя абавязкі, падпарадкоўваецца правілам унутранага працоўнага распарадку, яму гарантуюцца ўмовы і аплата працы нараўне з іншымі работнікамі.

Артыкул 34. **Пераважнае права на пакіданне на рабоце пры скарачэнні колькасці або штату работнікаў**

Пры скарачэнні колькасці або штату работнікаў пераважнае права на пакіданне на рабоце прадастаўляецца работнікам з больш высокай прадукцыйнасцю працы і кваліфікацыяй.

Пры роўнай прадукцыйнасці працы і кваліфікацыі перавага ў пакіданні на рабоце аддаецца ўдзельнікам ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, асобам, працаваўшым у зоне эвакуацыі, інвалідам, а таксама іншым катэгорыям работнікаў, вызначаным у калектыўным дагаворы.

Інваліды, якія працуюць на вучэбна-вытворчых прадпрыемствах суполак і таварыстваў інвалідаў, а таксама ў цэхах і на ўчастках для выкарыстання працы інвалідаў на іншых прад-

прыемствах, маюць пераважнае права на пакіданне на рабоце незалежна ад прадукцыйнасці працы і кваліфікацыі.

Артыкул 35. **Скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка з папярэдняга паведамлення або згоды прафсаюза**

Скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка (артыкул 33, пункты 2 і 3 артыкула 254) праводзіцца пасля папярэдняга, не пазней чым за два тыдні, паведамлення адпаведнаму прафсаюзу.

У выпадках, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі, пагадненнямі, скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка можа праводзіцца толькі з папярэдняй згоды адпаведнага прафсаюза.

Артыкул 36. **Выходная дапамога**

Пры спыненні працоўнага дагавора па падставах, указаных у пунктах 3 і 6 артыкула 29, пунктах $1^1$, 2 і 6 артыкула 33 гэтага Кодэкса, а таксама з прычыны парушэння наймальнікам заканадаўства аб працы, калектыўнага і працоўнага дагавора (артыкул 32) работнікам выплачваецца выхадная дапамога ў размеры не менш двухтыднёвага сярэдняга заработку.

Пры спыненні працоўнага дагавора ў сувязі з ліквідацыяй прадпрыемства, установы, арганізацыі, ажыццяўленнем мерапрыемстваў па скарачэнню колькасці (штату) работнікаў, спыненнем дзейнасці прадпрымальніка выплачваецца выхадная дапамога ў памеры не менш трохкратнага, а ў сувязі з эвакуацыяй, адсяленнем або самастойным выездам з зон эвакуацыі, першачарговага і наступнага адсялення з прычыны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС — чатырохкратнага сярэднямесячнага заработку.

Сумяшчальнікам выхадная дапамога не выплачваецца.

Размер дапамогі павялічваецца ў залежнасці ад стажу работы ў дадзенага наймальніка ў парадку і на ўмовах, прадугледжаных калектыўным дагаворам, пагадненнем.

Артыкул 37 выключаны.

Атыкул 38. **Адхіленне ад работы**

Па патрабаванню ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў у выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, наймальнік абавязаны адхіліць работніка ад работы.

Работніка, які з'явіўся на рабоце ў нецвярозым стане, у стане наркатычнага або таксічнага ап'янення, наймальнік не дапускае да работы ў гэты дзень (змену).



За перыяд адхілення ад работы заработная плата не налічваецца.

Артыкул 39. **Працоўная кніжка**

Працоўная кніжка з'яўляецца асноўным дакументам аб працоўнай дзейнасці работніка.

Працоўныя кніжкі вядуцца на ўсіх работнікаў, якія працуюць у наймальніка звыш пяці дзён.

У працоўную кніжку ўносяцца звесткі аб работніку, аб выконваемай ім рабоце, а таксама аб заахвочваннях і ўзнагароджаннях за поспехі ў рабоце. Спагнанні ў працоўную кніжку не запісваюцца.

Запісы аб прычынах звальнення ў працоўную кніжку павінны праводзіцца ў дакладнай адпаведнасці з фармулёўкамі дзеючага заканадаўства і са спасылкай на адпаведны артыкул, пункт закона. Пры спыненні працоўнага дагавора ў сувязі з хваробай, інваліднасцю, выхадам на пенсію па ўзросту, залічэннем у вышэйшую або сярэднюю спецыяльную навучальную ўстанову або ў аспірантуру (дактарантуру) і па іншых прычынах, з якімі заканадаўства звязвае прадастаўленне пэўных ільгот і пераваг, запіс аб звальненні ў працоўную кніжку ўносіцца з указаннем гэтых прычын.

Пры звальненні працоўная кніжка выдаецца работніку ў дзень звальнення.

Артыкул 40. **Выдача дакументаў аб рабоце і заработнай плаце**

Наймальнік абавязаны не пазней чым у пяцідзённы тэрмін па просьбе работніка, у тым ліку былога, выдаць даведку з указаннем спецыяльнасці, кваліфікацыі, пасады, часу работы і размеру заработнай платы, а таксама іншыя дакументы аб рабоце, прадугледжаныя заканадаўствам.

Глава III-А выключана.

## Глава IV
## РАБОЧЫ ЧАС

Артыкул 41. **Нарміраванне працягласці рабочага часу**

Нарміраванне працягласці рабочага часу работнікаў ажыццяўляецца наймальнікам з улікам абмежаванняў, устаноўленых гэтым Кодэксам і калектыўным дагаворам.

Артыкул 42. **Нармальная працягласць рабочага часу**

Нармальная працягласць рабочага часу не можа перавышаць 41 гадзіну ў тыдзень.

Артыкул 43. **Скарочаная працягласць рабочага часу для работнікаў маладзей васемнаццаці гадоў**

Для работнікаў маладзей васемнаццаці гадоў устанаўліваецца скарочаная працягласць рабочага часу: ва ўзросце ад 16 да 18 гадоў — не больше 36 гадзін у тыдзень, ад 14 да 16 гадоў — не больш 24 гадзін у тыдзень.

Працягласць рабочага часу навучэнцаў, якія працуюць на працягу навучальнага года ў вольны ад вучобы час, не можа перавышаць паловы максімальнай працягласці рабочага часу, прадугледжанай у частцы першай гэтага артыкула для асоб адпаведнага ўзросту.

Артыкул 44. **Скарочаная працягласць рабочага часу для работнікаў на работах са шкоднымі ўмовамі працы**

Для работнікаў, занятых на работах са шкоднымі ўмовамі працы, устанаўліваецца скарочаная працягласць рабочага часу — не больш 36 гадзін у тыдзень.

Агульная працягласць рабочага часу пры ўключэнні ў яго часу дастаўкі работнікаў пад зямлёй да месца работы і назад на яе паверхню не можа перавышаць 38 гадзін 45 хвілін у тыдзень.

Спіс вытворчасцей, цэхаў, прафесій і пасад са шкоднымі ўмовамі працы, работа ў якіх дае права на скарочаную працягласць рабочага часу, зацвярджаецца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам.

Артыкул 45. **Скарочаная працягласць рабочага часу для асобных катэгорый работнікаў**

Заканадаўствам устанаўліваецца скарочаная працягласць рабочага часу для асобных катэгорый работнікаў (настаўнікаў, урачоў і іншых).

Артыкул 46. **Пяцідзённы і шасцідзённы рабочы тыдзень і працягласць штодзённай работы (змены)**

Пяцідзённы з двума выхаднымі днямі або шасцідзённы з адным выхадным днём рабочы тыдзень устанаўліваецца ў калектыўным дагаворы, а там, дзе ён не заключаецца,— наймальнікам.

Пры шасцідзённым рабочым тыдні працягласць штодзённай работы не можа перавышаць 7 гадзін пры норме 41 гадзіна, 6 гадзін 30 хвілін пры норме 38 гадзін 45 хвілін, 6 гадзін пры норме 36 гадзін і 4 гадзін пры норме 24 гадзіны.

Пры пяцідзённым рабочым тыдні працягласць штодзённай



работы (змены) вызначаецца правіламі ўнутранага працоўнага распарадку або графікамі зменнасці з захаваннем устаноўленай працягласці рабочага тыдня (артыкулы 42—45).

Графікі зменнасці зацвярджаюцца наймальнікам па ўзгадненню з прафсаюзам і даводзяцца да ведама работнікаў, як правіла, не пазней чым за два месяцы да ўвядзення іх у дзеянне.

Артыкул 47. **Працягласць работы напярэдадні святочных і выхадных дзён**

Напярэдадні святочных дзён (артыкул 65) працягласць работы работнікаў, акрамя работнікаў, указаных у артыкулах 43—45 гэтага Кодэкса, скарачаецца на адзін час як пры пяцідзённым, так і пры шасцідзённым рабочым тыдні.

Напярэдадні выхадных дзён працягласць работы пры шасцідзённым рабочым тыдні не можа перавышаць 6 гадзін.

Артыкул 48. **Работа ў начны час**

Пры рабоце ў начны час устаноўленая працягласць работы (змены) скарачаецца на адну гадзіну. Гэта правіла не распаўсюджваецца на работнікаў, для якіх ужо прадугледжана скарачэнне рабочага часу (артыкулы 44 і 45).

Працягласць начной работы ўраўноўваецца з дзённай у тых выпадках, калі гэта неабходна па ўмовах вытворчасці, у прыватнасці, у бесперапынных вытворчасцях, а таксама на зменных работах пры шасцідзённым рабочым тыдні з адным выхадным днём.

Да работы ў начны час не дапускаюцца: цяжарныя жанчыны і жанчыны, якія маюць дзяцей ва ўзросце да трох гадоў (артыкул 162); работнікі маладзей васемнаццаці гадоў (артыкул 177); іншыя катэгорыі работнікаў у адпаведнасці з заканадаўствам. Інваліды могуць прыцягвацца да работы ў начны час толькі з іх згоды і пры ўмове, калі такая работа не забаронена ім медыцынскім заключэннем (артыкул 157).

Начным лічыцца час з 10 гадзін вечара да 6 гадзін раніцы.

Артыкул 49. **Няпоўны рабочы час**

Па пагадненню паміж работнікам і наймальнікам можа ўстанаўлівацца як пры прыёме на работу, так і ў далейшым няпоўны рабочы дзень або няпоўны рабочы тыдзень. Па просьбе цяжарнай жанчыны, жанчыны, якая мае дзіця ва ўзросце да чатырнаццаці гадоў (у тым ліку якое знаходзіцца пад яе апекай) або ажыццяўляе догляд за хворым членам сям'і ў адпаведнасці з медыцынскім заключэннем, наймальнік абавязаны ўстанаўліваць ёй няпоўны рабочы дзень або няпоўны рабочы тыдзень.

Аплата працы ў гэтых выпадках праводзіцца прапарцыянальна адпрацаванаму часу або ў залежнасці ад выпрацоўкі.

Работа на ўмовах няпоўнага рабочага часу не цягне для работнікаў якіх-небудзь абмежаванняў працягласці штогадовага водпуску, вылічэння працоўнага стажу і іншых працоўных правоў.

Артыкул 50. **Пачатак і заканчэнне штодзённай работы**

Час пачатку і заканчэння штодзённай работы (змены) прадугледжваецца правіламі ўнутранага працоўнага распарадку і графікамі зменнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Артыкул 51. **Зменная работа**

Пры зменнай рабоце кожная група работнікаў павінна праводзіць работу на працягу ўстаноўленай працягласці рабочага часу.

Работнікі чаргуюцца па зменах раўнамерна. Пераход з адной змены ў другую вызначаецца графікамі зменнасці, якія зацвярджаюцца наймальнікам па ўзгадненню з прафсаюзам.

Назначэнне работніка на работу на працягу дзвюх змен запар забараняецца.

Артыкул 52. **Падсумаваны ўлік рабочага часу**

На бесперапынна дзеючых прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях, а таксама там, дзе па ўмовах вытворчасці (работы) немагчыма або немэтазгодна захаванне ўстаноўленай для дадзенай катэгорыі работнікаў штодзённай або штотыднёвай працягласці рабочага часу, на падставе калектыўнага дагавора (а там, дзе ён не заключаецца,— наймальнікам) можа прымяняцца падсумаваны ўлік рабочага часу. Пры гэтым працягласць рабочага часу за ўліковы перыяд не павінна перавышаць устаноўленай артыкуламі 42—45 гэтага Кодэкса.

Артыкул 53. **Раздзяленне рабочага дня на часткі**

На тых работах, дзе гэта неабходна з прычыны вытворчых або іншых умоў, на падставе калектыўнага дагавора (а там, дзе ён не заключаецца,— наймальнікам) рабочы дзень можа быць раздзелены на часткі. Пры гэтым агульная працягласць рабочага часу не павінна перавышаць устаноўленай працягласці штодзённай работы.

Артыкул 54. **Абмежаванне звышурочных работ**

Звышурочнымі лічацца работы звыш устаноўленай працягласці рабочага часу (артыкулы 46 і 52).



Прыцягненне да звышурочных работ дапускаецца толькі са згоды работніка, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных артыкулам 55 гэтага Кодэкса, а таксама калектыўным дагаворам, пагадненнем.

Да звышурочных работ не дапускаюцца: цяжарныя жанчыны і жанчыны, якія маюць дзяцей ва ўзросце да трох гадоў (артыкул 162); работнікі маладзей васемнаццаці гадоў (артыкул 177); работнікі, якія навучаюцца без адрыву ад вытворчасці ў агульнаадукацыйных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных установах, у дні заняткаў; іншыя катэгорыі работнікаў у адпаведнасці з заканадаўствам.

Жанчыны, якія маюць дзяцей ва ўзросце ад трох да чатырнаццаці гадоў (дзяцей-інвалідаў — да шаснаццаці гадоў), і інваліды могуць прыцягвацца да звышурочных работ толькі з іх згоды, прычым інваліды толькі пры ўмове, калі такія работы не забаронены ім медыцынскім заключэннем (артыкулы 157 і 163).

Артыкул 55. **Выключныя выпадкі, калі дапускаюцца звышурочныя работы без згоды работніка**

Звышурочныя работы без згоды работніка дапускаюцца толькі ў наступных выключных выпадках:

1) пры правядзенні работ для папярэджання грамадскага або стыхійнага бедства, вытворчай аварыі і неадкладнага ўстаранення іх вынікаў, папярэджання няшчасных выпадкаў, аказання экстранай медыцынскай дапамогі работнікамі ўстаноў аховы здароўя;

2) пры правядзенні грамадска неабходных работ па водазабеспячэнню, газазабеспячэнню, ацяпленню, асвятленню, каналізацыі, транспарту, сувязі — для ўстаранення выпадковых або нечаканых абставін, што парушаюць правільнае іх функцыяніраванне.

Артыкул 56. **Гранічная колькасць звышурочных работ**

Звышурочныя работы не павінны перавышаць для кожнага работніка чатырох гадзін на працягу двух дзён запар і 120 гадзін у год. У гранічную колькасць не ўключаюцца звышурочныя работы, выкананыя ў выпадках, прадугледжаных артыкулам 55 гэтага Кодэкса.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь мае права скарачаць на пэўны тэрмін гранічную колькасць звышурочных работ у цэлым па рэспубліцы або па галінах ці асобных тэрыторыях з тым, каб расшырыць магчымасці працаўладкавання незанятага насельніцтва.

Наймальнік абавязаны весці дакладны ўлік звыштэрміно-

вых работ, выкананых кожным работнікам. Інфармацыя аб іх колькасці прадастаўляецца работніку па яго патрабаванню.

## Глава V
## ЧАС АДПАЧЫНКУ

Артыкул 57. **Перапынак для адпачынку і харчавання**

Работнікам прадастаўляецца перапынак для адпачынку і харчавання працягласцю не больш дзвюх гадзін. Перапынак не ўключаецца ў рабочы час.

Работнік выкарыстоўвае перапынак па свайму меркаванню. На гэты час яму прадастаўляецца права адлучацца з месца выканання работы.

Перапынак для адпачынку і харчавання павінен прадастаўляцца, як правіла, праз чатыры гадзіны пасля пачатку работы.

Час пачатку і заканчэння перапынку вызначаецца правіламі ўнутранага працоўнага распарадку.

На тых работах, дзе па ўмовах вытворчасці перапынак устанавіць нельга, работніку павінна быць прадастаўлена магчымасць прыёму ежы на працягу рабочага часу. Пералік такіх работ, парадак і месца прыёму ежы ўстанаўліваюцца наймальнікам або ў калектыўным дагаворы.

Артыкул 58. **Выхадныя дні**

Пры пяцідзённым рабочым тыдні работнікам прадастаўляюцца два выхадныя дні ў тыдзень, а пры шасцідзённым рабочым тыдні — адзін выхадны дзень.

Агульным выхадным днём з'яўляецца нядзеля. Нядзеля можа быць аб'яўлена рабочым днём Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, калі іншае не прадугледжана гэтым Кодэксам.

Другі выхадны дзень пры пяцідзённым рабочым тыдні, калі ён не вызначаны заканадаўствам, устанаўліваецца графікам зменнасці. Абодва выхадныя дні прадастаўляюцца, як правіла, запар.

Артыкул 59. **Працягласць штотыднёвага бесперапыннага адпачынку**

Працягласць штотыднёвага бесперапыннага адпачынку павінна быць не менш сарака дзвюх гадзін.

Артыкул 60 выключаны.

Артыкул 61. **Выхадныя дні на бесперапынна дзеючых прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях**

На прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях, прыпыненне работы ў якіх немагчыма па вытворча-тэхнічных умовах або ў выніку неабходнасці пастаяннага бесперапыннага абслугоўвання насельніцтва, а таксама на іншых прадпрыемствах з бесперапыннай вытворчасцю выхадныя дні прадастаўляюцца ў розныя дні тыдня пачаргова кожнай групе работнікаў згодна з графікам зменнасці (артыкул 51).



Артыкул 62 выключаны.

Артыкул 63. **Прыцягненне да работы ў выхадныя дні**

Прыцягненне да работы ў выхадныя дні дапускаецца толькі са згоды работніка, за выключэннем выпадкаў, калі яна выконваецца:

1) для папярэджання грамадскага або стыхійнага бедства, вытворчай аварыі і неадкладнага ўстаранення іх вынікаў, папярэджання няшчасных выпадкаў;

2) на падставе калектыўнага дагавора.

Прыцягненне да работы ў выхадныя дні афармляецца загадам (распараджэннем) наймальніка з захаваннем гарантый, прадугледжаных артыкуламі 157, 162 і 177 гэтага Кодэкса.

Артыкул 64. **Кампенсацыя за работу ў выхадны дзень**

Работа ў выхадны дзень можа кампенсавацца, па пагадненню бакоў, прадастаўленнем іншага дня адпачынку або ў грашовай форме не ніжэй чым у двайным размеры.

Аплата за работу ў выхадны дзень вылічваецца па правілах артыкула 88 гэтага Кодэкса.

Артыкул 65. **Святочныя дні**

Работа не праводзіцца ў наступныя святочныя дні:

1 студзеня — Новы год;

7 студзеня — Нараджэнне Хрыстова (праваслаўныя каляды);

8 сакавіка — Дзень жанчын;

па календары праваслаўнай і каталіцкай канфесій — Вялікдзень — дзень першы; Вялікдзень — дзень другі;

па календары праваслаўнай канфесіі — Радаўніца;

1 мая — Свята працы;

9 мая — Дзень Перамогі;

27 ліпеня — Дзень Незалежнасці;

2 лістапада — Дзень памяці;

25 снежня — Нараджэнне Хрыстова (каталіцкія каляды).

У святочныя дні дапускаюцца работы, прыпыненне якіх немагчыма па вытворча-тэхнічных умовах (прадпрыемствы,

установы, арганізацыі, якія бесперапынна дзейнічаюць), работы, выкліканыя неабходнасцю абслугоўвання насельніцтва, а таксама неадкладныя рамонтныя і пагрузачна-разгрузачныя работы.

Работа ў святочны дзень аплачваецца ў павышаным памеры па правілах артыкула 88 гэтага Кодэкса. Па жаданню работніка, які працаваў у святочны дзень, яму прадастаўляецца іншы дзень адпачынку.

Артыкул 66. **Штогадовыя водпускі**

Усе работнікі маюць права на штогадовыя водпускі з захаваннем месца работы (пасады) і сярэдняга заработку (артыкулы 67 і 68).

Артыкул 67. **Працягласць водпуску**

Штогадовы водпуск прадастаўляецца работнікам працягласцю не менш 15 рабочых дзён з паступовым пераходам да прадастаўлення водпуску большай працягласці. Парадак вылічэння працягласці штогадовага водпуску вызначаецца заканадаўствам.

Работнікам маладзей васемнаццаці гадоў і інвалідам штогадовы водпуск прадастаўляецца працягласцю не менш аднаго каляндарнага месяца.

Артыкул 68. **Дадатковыя водпускі**

Штогадовыя дадатковыя водпускі прадастаўляюцца:

1) работнікам, занятым на работах са шкоднымі ўмовамі працы;

2) работнікам, якія заняты ў асобных галінах народнай гаспадаркі і маюць працяглы стаж работы на адным прадпрыемстве, у арганізацыі;

3) работнікам з ненарміраваным рабочым днём;

4) у іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам або калектыўным дагаворам.

Артыкул 69 выключаны.

Артыкул 70. **Неўключэнне перыядаў часовай непрацаздольнасці ў лік штогадовых водпускаў**

Перыяды часовай непрацаздольнасці (у тым ліку па цяжарнасці і родах), на працягу якіх работнікі ва ўстаноўленым парадку вызваляюцца ад работы, у лік штогадовых водпускаў не ўключаюцца.



Артыкул 71. **Парадак прадастаўлення водпускаў**

Водпуск за першы год работы прадастаўляецца работнікам па сканчэнні адзінаццаці месяцаў бесперапыннай работы ў дадзенага наймальніка. Да сканчэння адзінаццаці месяцаў бесперапыннай работы водпуск па просьбе работніка прадастаўляецца: жанчынам — перад водпускам па цяжарнасці і родах або пасля яго; работнікам маладзей васемнаццаці гадоў; ваеннаслужачым, звольненым у запас і накіраваным на работу ў парадку арганізаванага набору,— па сканчэнні трох месяцаў работы; у іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калектыўным і працоўным дагаворамі.

Водпуск за другі і наступны гады работы можа прадастаўляцца ў любы час рабочага года ў адпаведнасці з чарговасцю прадастаўлення водпускаў.

Артыкул 72. **Вылічэнне стажу работы, які дае права на водпуск**

У стаж работы, які дае права на водпуск, уключаюцца:

1) фактычна прапрацаваны час;

2) час, калі работнік фактычна не працаваў, але за ім захоўваліся месца работы (пасада) і заработная плата поўнасцю або часткова (у тым ліку час аплачанага вымушанага прагулу пры аднаўленні на рабоце);

3) час, калі работнік фактычна не працаваў, але захоўваў за сабой месца работы (пасаду) і атрымліваў дапамогу па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, за выключэннем водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту трох гадоў;

4) іншыя перыяды часу, прадугледжаныя заканадаўствам.

Артыкул 73. **Чарговасць прадастаўлення водпускаў**

Чарговасць прадастаўлення водпускаў устанаўліваецца наймальнікам сумесна з прафсаюзам.

Водпускі могуць прадастаўляцца ў любы час на працягу года, але без парушэння нармальнай дзейнасці прадпрыемства, установы, арганізацыі, прадпрымальніка.

Артыкул 74. **Штогадовае прадастаўленне водпуску. Выключныя выпадкі перанясення водпуску**

Водпуск павінен прадастаўляцца штогод ва ўстаноўлены тэрмін.

Штогадовы водпуск павінен быць перанесены або прадоўжаны: пры часовай непрацаздольнасці работніка; пры выкананні работнікам дзяржаўных або грамадскіх абавязкаў; у іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам.

У выключных выпадках, калі прадастаўленне водпуску работніку ў бягучым рабочым годзе можа неспрыяльна адбіцца на нармальнай дзейнасці прадпрыемства, установы, арганізацыі, прадпрымальніка, дапускаецца са згоды работніка перанясенне водпуску на наступны рабочы год. Перанесены водпуск можа быць далучаны да водпуску за наступны рабочы год.

Забараняецца непрадастаўленне штогадовага водпуску на працягу двух гадоў запар, а таксама непрадастаўленне водпуску работнікам маладзей васемнаццаці гадоў і работнікам, якія маюць права на дадатковы водпуск у сувязі са шкоднымі ўмовамі працы.

Артыкул 75. **Замена штогадовага водпуску грашовай кампенсацыяй**

Замена штогадовага водпуску або яго часткі грашовай кампенсацыяй без згоды работніка не дапускаецца, акрамя выпадкаў звальнення работніка.

Па пісьмовай заяве работніка штогадовы водпуск, за выключэннем шасці рабочых дзён, замяняецца грашовай кампенсацыяй.

Артыкул 76. **Водпуск без захавання заработнай платы**

У выпадках, прадугледжаных заканадаўствам або калектыўным дагаворам, наймальнік абавязаны прадастаўляць работніку па яго просьбе водпуск без захавання заработнай платы.

Па пагадненню бакоў работніку можа быць прадастаўлены водпуск без захавання заработнай платы (у тым ліку з наступнай адработкай) па сямейных абставінах і іншых прычынах.

## Глава VI
## ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА

Артыкул 77. **Заработная плата**

Заработная плата — сукупнасць узнагароджанняў у грашовай або (і) натуральнай форме, якія атрымліваюцца работнікам за фактычна выкананую работу, а таксама за перыяды, што ўключаюцца ў рабочы час.

Пералік узнагароджанняў, якія адносяцца да заработнай платы, вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Заработная плата падлягае індэксацыі ў адпаведнасці з заканадаўствам.



Артыкул 78. **Мінімальная заработная плата**

Мінімальная заработная плата — нарматыў, які вызначае мінімальна дапушчальны ўзровень грашовых або (і) натуральных выплат работніку наймальнікам за выкананую для яго работу.

Размер мінімальнай заработнай платы вызначаецца зыходзячы з мінімальнага спажывецкага бюджэту і зацвярджаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

У калектыўных дагаворах, пагадненнях можа прадугледжвацца больш высокі размер мінімальнай заработнай платы.

Мінімальная заработная плата з'яўляецца асновай для вызначэння размераў рэспубліканскіх тарыфаў аплаты працы, пенсій, стыпендый, дапамог і іншых сацыяльных выплат.

Артыкул 79. **Рэспубліканскія тарыфы аплаты працы**

Рэспубліканскімі тарыфамі аплаты працы з'яўляюцца месячныя тарыфныя стаўкі і службовыя аклады, якія вызначаюць узроўні аплаты працы для канкрэтных прафесіянальна-кваліфікацыйных груп работнікаў бюджэтных устаноў і арганізацый. Іншыя наймальнікі, калі гэта прадугледжана калектыўнымі дагаворамі, пагадненнямі, абавязаны выкарыстоўваць рэспубліканскія тарыфы для дыферэнцыяцыі аплаты працы работнікаў.

Рэспубліканскія тарыфы аплаты працы вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь або іншым упаўнаважаным органам з удзелам прафсаюзаў.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь на працягу каляндарнага года мае права павышаць рэспубліканскія тарыфы аплаты працы.

Артыкул 80. **Аплата працы работнікаў**

Аплата працы работнікаў праводзіцца, як правіла, на аснове тарыфных ставак (службовых акладаў), якія вызначаюцца ў калектыўным дагаворы або наймальнікам.

Аднясенне выконваемых работ да пэўных тарыфных разрадаў (пасад) і прысваенне работнікам адпаведнай кваліфікацыі ажыццяўляецца наймальнікам у парадку, што вызначаецца калектыўным дагаворам. Пры гэтым у якасці арыенціра могуць выкарыстоўвацца кваліфікацыйныя даведнікі, зацверджаныя ва ўстаноўленым парадку.

Рабочым, якія выконваюць нормы працы, прысваенне больш высокай кваліфікацыі праводзіцца ў першую чаргу. Калі рабочы паспяхова выконваў не менш трох месяцаў на працягу года работы больш высокай кваліфікацыі, ён мае права патра-

баваць ад наймальніка прысваення ва ўстаноўленым парадку больш высокай кваліфікацыі.

Артыкул 81 выключаны.

### Артыкул 82. Аплата працы, якая прымяняецца ў асобых умовах

На цяжкіх работах, на работах са шкоднымі ўмовамі працы і на работах у мясцовасцях з цяжкімі кліматычнымі ўмовамі ўстанаўліваецца павышаная аплата працы.

### Артыкул 83. Формы, сістэмы і размеры аплаты працы

Формы, сістэмы і размеры аплаты працы работнікаў устанаўліваюцца наймальнікам на падставе калектыўнага дагавора, пагадненняў і працоўнага дагавора.

Формы, сістэмы і размеры аплаты працы работнікаў дзяржаўных бюджэтных устаноў і арганізацый устанаўліваюцца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Заработная плата работнікаў максімальнымі размерамі не абмяжоўваецца.

### Артыкул 84. Узнагароджанне па выніках гадавой работы

Наймальнік за кошт атрыманага ім прыбытку можа ўстанаўліваць работнікам узнагароджанне па выніках гадавой работы. Размер узнагароджання вызначаецца з улікам вынікаў працы работніка і працягласці бесперапыннага стажу работы ў дадзенага наймальніка.

### Артыкул 84[1]. Права работнікаў на прыбытак прадпрыемства

Работнікі маюць права на частку прыбытку прадпрыемства ў выпадках, прадугледжаных заканадаўчымі актамі або статутам прадпрыемства.

### Артыкул 85. Паведамленне работнікам аб увядзенні новых або змяненні дзеючых умоў аплаты працы

Наймальнік абавязаны паведаміць работнікам аб увядзенні новых або змяненні дзеючых умоў аплаты працы не пазней чым за адзін месяц.

### Артыкул 86. Аплата працы пры выкананні работ рознай кваліфікацыі

Пры выкананні работ рознай кваліфікацыі праца пачасовых



рабочых, а таксама служачых аплачваецца па рабоце больш высокай кваліфікацыі.

Праца рабочых-здзельшчыкаў аплачваецца па расцэнках работы, якая выконваецца. Там, дзе па характару вытворчасці рабочым-здзельшчыкам даручаецца выкананне работ, тарыфікаваных ніжэй прысвоеных ім разрадаў, рабочым, якія выконваюць такія работы, выплачваецца міжразрадная розніца, калі гэта прадугледжана калектыўным дагаворам. Выплата праводзіцца пры выкананні рабочым норм выпрацоўкі і наяўнасці розніцы ў разрадах не менш чым у два разрады.

### Артыкул 87. Аплата працы пры сумяшчэнні прафесій (пасад) і выкананні абавязкаў работнікаў, якія часова адсутнічаюць

Работнікам, што выконваюць у аднаго і таго ж наймальніка нараўне са сваёй асноўнай работай, абумоўленай працоўным дагаворам, дадатковую работу па іншай прафесіі (пасадзе) або абавязкі работніка, які часова адсутнічае, без вызвалення ад сваёй асноўнай работы на працягу ўстаноўленай заканадаўствам працягласці рабочага дня (рабочай змены), праводзіцца даплата за сумяшчэнне прафесій (пасад) або выкананне абавязкаў работніка, які часова адсутнічае.

Размеры даплат за сумяшчэнне прафесій (пасад) або выкананне абавязкаў работніка, які часова адсутнічае, устанаўліваюцца наймальнікам па пагадненню з работнікам.

### Артыкул 88. Плата за работу ў звышурочны час, у выхадныя і святочныя дні

Кожная гадзіна работы ў звышурочны час аплачваецца:

работнікам са здзельнай аплатай працы — не ніжэй двайных здзельных расцэнак;

работнікам з пачасовай аплатай працы, а таксама тым, хто атрымлівае службовыя аклады,— не ніжэй двайных гадзінных ставак (акладаў).

Па дамоўленасці з наймальнікам работніку за работу ў звышурочны час можа прадастаўляцца адгул.

Работа ў выхадныя і святочныя дні аплачваецца не ніжэй чым у двайным размеры па правілах часткі першай гэтага артыкула. Пры гэтым для работнікаў, якія атрымліваюць месячны аклад, аплата праводзіцца ў размеры не ніжэй адзінарнай гадзіннай або дзённай стаўкі звыш акладу, калі работа праводзілася ў межах месячнай нормы рабочага часу, і ў размеры не ніжэй двайной гадзіннай або дзённай стаўкі звыш акладу, калі работа праводзілася звыш месячнай нормы.

Артыкул 89 выключаны.

Артыкул 90. **Аплата работы ў начны час**

Работа ў начны час (артыкул 48) аплачваецца ў павышаным размеры, які ўстанаўліваецца заканадаўствам.

Артыкул 90[1]. **Аплата працы пры мнагазменнай рабоце**

Пры мнагазменнай рабоце ўстанаўліваецца павышаная ў параўнанні са звычайнай аплата ў вячэрнюю змену не менш чым на 20 працэнтаў, а ў начную змену не менш чым на 40 працэнтаў гадзіннай тарыфнай стаўкі (акладу) работніка за кожную гадзіну работы ва ўказаных зменах.

Артыкул 91. **Аплата працы пры невыкананні норм выпрацоўкі, браку і прастоі, а таксама пры асваенні новых вытворчасцей (прадукцыі)**

Пры невыкананні норм выпрацоўкі, браку і прастоі не па віне работніка заработная плата не можа быць ніжэй дзвюх трацей устаноўленай яму тарыфнай стаўкі (акладу).

Пры невыкананні норм выпрацоўкі па віне работніка аплата праводзіцца за фактычна выкананую работу.

Поўны брак і прастой па віне работніка аплаце не падлягаюць. Частковы брак па віне работніка аплачваецца па паніжаных у залежнасці ад ступені годнасці прадукцыі расцэнках.

Брак вырабаў з прычыны ўтоенага дэфекту ў матэрыяле, які апрацоўваецца, а таксама брак не па віне работніка, выяўлены пасля прыёмкі вырабу органам тэхнічнага кантролю, аплачваецца нараўне з годнымі вырабамі.

Размер аплаты працы работнікаў у перыяд асваення новай вытворчасці (прадукцыі) вызначаецца ў калектыўным дагаворы.

Артыкулы 92—94 выключаны.

Артыкул 95. **Захаванне заработнай платы пры пераводзе на іншую пастаянную ніжэйаплатную работу і перамяшчэнні**

Пры пераводзе на іншую пастаянную ніжэйаплатную работу за работнікам захоўваецца яго ранейшы сярэдні заработак на працягу не менш двух тыдняў з дня пераводу.

У тых выпадках, калі ў выніку перамяшчэння работніка (частка другая артыкула 25) памяншаецца заработак па не залежных ад яго прычынах, праводзіцца даплата да ранейшага сярэдняга заработку на працягу не менш двух месяцаў з дня перамяшчэння.



Артыкул 96. **Тэрміны і перыядычнасць выплаты заработнай платы**

Выплата заработнай платы праводзіцца рэгулярна ў дні, вызначаныя ў калектыўным дагаворы, пагадненні або ў працоўным дагаворы, але не радзей аднаго разу ў месяц.

Для асобных катэгорый работнікаў заканадаўствам могуць быць вызначаны іншыя тэрміны выплаты заработнай платы.

Заработная плата за ўвесь час водпуску выплачваецца не пазней чым за адзін дзень да пачатку водпуску.

Артыкул 96[1]. **Формы выплаты заработнай платы**

Заработная плата выплачваецца ў грашовых адзінках Рэспублікі Беларусь.

Са згоды работніка дапускаецца замена грашовай аплаты натуральнай.

Артыкул 97. **Месца выплаты заработнай платы**

Выплата заработнай платы работнікам праводзіцца, як правіла, у месцы выканання імі работы.

Артыкул 97[1]. **Рэзервовы фонд заработнай платы**

Для забеспячэння выплат належнай работнікам заработнай платы, а таксама прадугледжаных заканадаўствам, калектыўным і працоўным дагаворамі гарантыйных і кампенсацыйных выплат у выпадку банкруцтва або неплацежаздольнасці наймальніка, ліквідацыі прадпрыемства, спынення дзейнасці прадпрымальніка і ў іншых прадугледжаных заканадаўствам выпадках наймальнікі абавязаны ствараць рэзервовы фонд заработнай платы на падставах, у размерах і парадку, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі, пагадненнямі. Выкарыстанне гэтага фонду на іншыя мэты дазваляецца толькі па ўзгадненню з працоўным калектывам.

Артыкул 98. **Тэрміны разліку пры звальненні**

Пры звальненні работніка выплата ўсіх сум, належных яму ад наймальніка, праводзіцца ў дзень звальнення. Калі работнік у дзень звальнення не працаваў, то адпаведныя сумы павінны быць выплачаны не пазней наступнага дня пасля прад'яўлення ім патрабавання аб разліку.

У выпадку спрэчкі аб размерах сум, належных работніку пры звальненні, наймальнік ва ўсякім выпадку абавязаны ва ўказаны ў гэтым артыкуле тэрмін выплаціць не аспрэчваемую ім суму.

Артыкул 99. **Адказнасць за затрымку выдачы працоўнай кніжкі**

Пры затрымцы выдачы працоўнай кніжкі па віне наймальніка работніку выплачваецца сярэдні заработак за ўвесь час вымушанага прагулу.

Артыкул 100. **Разліковыя кніжкі**

Усім рабочым, а таксама служачым, праца якіх аплачваецца здзельна, наймальнік абавязаны выдаваць па сканчэнні пяці дзён пасля прыёму на работу разліковыя кніжкі.

У разліковыя кніжкі запісваюцца ўмовы працы і разлікі па заработнай плаце.

Артыкул 101 выключаны.

## Глава VII
## НОРМЫ ПРАЦЫ І ЗДЗЕЛЬНЫЯ РАСЦЭНКІ

Артыкул 102. **Нормы працы**

Нормы працы — нормы выпрацоўкі, часу, абслугоўвання, колькасці, нарміраваныя заданні — устанаўліваюцца для работнікаў у адпаведнасці з дасягнутым узроўнем тэхнікі, тэхналогіі, арганізацыі вытворчасці і працы, а таксама з улікам фізіялагічных і полаўзроставых фактараў для асобных катэгорый работнікаў.

Ва ўмовах калектыўных форм арганізацыі і аплаты працы могуць прымяняцца таксама ўзбуйненыя і комплексныя нормы.

Артыкул 103. **Устанаўленне, замена і перагляд норм працы**

Устанаўленне, замена і перагляд норм працы праводзіцца наймальнікам з удзелам прафсаюзаў.

Аб устанаўленні, замене і перaглядзе норм працы работнікам павінна быць паведамлена не пазней чым за адзін месяц.

Артыкул 104 выключаны.

Артыкул 105. **Вызначэнне расцэнак пры здзельнай аплаце працы**

Пры здзельнай аплаце працы расцэнкі вызначаюцца зыходзячы з устаноўленых разрадаў работы, тарыфных ставак (акладаў) і норм выпрацоўкі (норм часу).

Здзельная расцэнка вызначаецца шляхам дзялення гадзіннай (дзённай) тарыфнай стаўкі, якая адпавядае разраду выконваемай работы, на гадзінную (дзённую) норму выпрацоўкі.



Здзельная расцэнка можа быць вызначана таксама шляхам памнажэння гадзіннай або дзённай тарыфнай стаўкі, якая адпавядае разраду выконваемай работы, на ўстаноўленую норму часу ў гадзінах або днях.

Артыкулы 106 і 107 выключаны.

Артыкул 108. **Забеспячэнне нармальных умоў для выканання норм працы**

Наймальнік абавязаны забяспечваць нармальныя ўмовы для выканання работнікамі норм працы. Такімі ўмовамі лічацца:

1) спраўны стан машын, станкоў і прыстасаванняў;

2) своечасовае забеспячэнне тэхнічнай дакументацыяй;

3) належная якасць матэрыялаў і інструментаў, неабходных для выканання работы, і іх своечасовая падача;

4) своечасовае забеспячэнне вытворчасці электраэнергіяй, газам і іншымі крыніцамі энергахарчавання;

5) бяспечныя і здаровыя ўмовы працы (выкананне правіл і норм па тэхніцы бяспекі, неабходнае асвятленне, ацяпленне, вентыляцыя, устараненне шкодных вынікаў шуму, выпраменьванняў, вібрацыі і іншых фактараў, якія адмоўна ўплываюць на здароўе работнікаў, і г. д.).

Артыкул 109 выключаны.

## Глава VIII
## ГАРАНТЫІ І КАМПЕНСАЦЫІ

Артыкул 110. **Гарантыі для работнікаў, выбраных на выбарныя пасады ў дзяржаўных органах**

Работнікам, вызваленым ад работы з прычыны іх выбрання на выбарныя пасады ў дзяржаўных органах, прадастаўляецца пасля заканчэння паўнамоцтваў па выбарнай пасадзе ранейшая работа (пасада), а пры яе адсутнасці — іншая раўнацэнная работа (пасада), за выключэннем выпадкаў ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі.

Артыкул 111. **Гарантыі для работнікаў на час выканання дзяржаўных або грамадскіх абавязкаў**

На час выканання дзяржаўных або грамадскіх абавязкаў, калі па дзеючаму заканадаўству гэтыя абавязкі могуць ажыццяўляцца ў рабочы час, работнікам гарантуецца захаванне месца работы (пасады) і сярэдняга заработку за кошт адпаведных дзяржаўных або іншых органаў і арганізацый.

Работнікам, якія прыцягваюцца да выканання воінскіх аба-

вязкаў, прадастаўляюцца гарантыі і льготы ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Сярэдні заработак захоўваецца ў выпадках выканання наступных дзяржаўных або грамадскіх абавязкаў у рабочы час:

1) ажыццяўлення выбарчага права;

2) удзелу дэпутатаў у сесіях Саветаў народных дэпутатаў, а ў выпадках, устаноўленых заканадаўствам, і пры выкананні імі іншых дэпутацкіх абавязкаў;

3) удзелу ў якасці дэлегатаў на з'ездах, пленумах, канферэнцыях, якія склікаюцца дзяржаўнымі органамі, а ў выпадках, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі, пагадненнямі,— прафсаюзамі і іншымі грамадскімі арганізацыямі і аб'яднаннямі;

4) яўкі па выкліку ў органы дазнання, папярэдняга следства, да пракурора і ў суд у якасці сведкі, пацярпеўшага, эксперта, спецыяліста, перакладчыка, панятога, а таксама ўдзелу ў судовых пасяджэннях у якасці народных засядацеляў, грамадскіх абвінаваўцаў і грамадскіх абаронцаў, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і працоўных калектываў;

5) удзелу ў калектыўных перагаворах у парадку і на ўмовах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі, пагадненнямі, а пры іх адсутнасці — па пагадненню паміж бакамі калектыўных перагавораў;

6) удзелу ў рабоце камісій па назначэнню пенсій пры выканаўчых камітэтах Саветаў народных дэпутатаў і ўрачэбнапрацоўных экспертных камісій (УПЭК) у якасці выдзеленых прафсаюзнымі арганізацыямі членаў гэтых камісій;

7) яўкі па выкліку ў камісіі па прызначэнню пенсій у якасці сведак для дачы паказанняў аб працоўным стажы;

8) удзелу членаў добраахвотных пажарных дружын у ліквідацыі пажару або аварыі;

9) выканання іншых дзяржаўных або грамадскіх абавязкаў — у выпадках, прадугледжаных заканадаўствам.

### Артыкул 112. **Гарантыі для работнікаў, якія накіроўваюцца для павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі**

Пры накіраванні работнікаў для павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі з адрывам ад вытворчасці за імі захоўваецца месца работы (пасада) і праводзяцца выплаты, прадугледжаныя заканадаўствам.



### Артыкул 113. **Гарантыі для работнікаў, якія накіроўваюцца на абследаванне ў медыцынскія ўстановы**

За час знаходжання ў медыцынскай установе на абследаванні за работнікамі, якія абавязаны праходзіць такое абследаванне, захоўваецца сярэдні заработак па месцы работы.

### Артыкул 114. **Гарантыі для работнікаў, якія з'яўляюцца донарамі**

Па дагаворанасці з медыцынскай установай наймальнік ва ўзгодненыя тэрміны абавязаны вызваляць работнікаў ад работы для абследавання і здачы крыві, а таксама прадастаўляць пасля гэтага дзень адпачынку, які па жаданню работніка можа быць далучаны да штогадовага водпуску.

Захаванне сярэдняга заработку за ўказаныя ў частцы першай гэтага артыкула дні праводзіцца за кошт медыцынскай установы.

### Артыкул 115. **Гарантыі для работнікаў — вынаходнікаў і рацыяналізатараў.**

Работа па ўкараненню вынаходстваў або рацыяналізатарскіх прапаноў, якая ажыццяўляецца работнікам-аўтарам у таго ж наймальніка, аплачваецца ў размеры не менш сярэдняга заработку.

Пры ўкараненні вынаходства або рацыяналізатарскай прапановы ў іншага наймальніка вызваленне ад работы з захаваннем пасады і аплата гэтай работы ў размеры не менш сярэдняга заработку праводзяцца па дагаворанасці паміж наймальнікамі і работнікам.

### Артыкул 116. **Гарантыі і кампенсацыі пры камандзіроўках і пераездзе на работу ў іншую мясцовасць**

Работнікам, якія накіроўваюцца ў службовыя камандзіроўкі, гарантуецца кампенсацыя расходаў, звязаных з камандзіроўкай, а таксама захаванне месца работы (пасады) і сярэдняга заработку.

Работнікам (асобам, якія завяршылі навучанне), якія пераязджаюць на работу ў іншую мясцовасць у сувязі з пераводам, накіраваннем у парадку арганізаванага набору або прыёмам у адпаведнасці з папярэдняй дагаворанасцю, заключанымі дагаворамі ці заяўкамі, гарантуецца:

1) кампенсацыя расходаў, звязаных з пераездам работніка (асобы, якая завяршыла навучанне) і членаў яго сям'і;

2) выплата заработнай платы за час знаходжання ў дарозе,

а таксама за дні збору ў дарогу і ўладкавання на новым месцы жыхарства;

3) выплата работніку (асобе, якая завяршыла навучанне) і членам яго сям'і аднаразовай дапамогі.

Парадак выплаты кампенсацый указаным вышэй асобам, мінімальныя размеры кампенсацыі расходаў, аднаразовай дапамогі, а таксама мінімальная колькасць дзён, якія прадастаўляюцца для збору ў дарогу і ўладкавання на новым месцы жыхарства, устанаўліваюцца заканадаўствам.

Артыкул 117. **Кампенсацыя за знос транспартных сродкаў, абсталявання, інструментаў і прыстасаванняў, якія належаць работніку**

Работнікі, якія выкарыстоўваюць свае транспартныя сродкі, абсталяванне, інструменты і прыстасаванні для патрэб наймальніка, маюць права на атрыманне за іх знос (амартызацыю) кампенсацыі, размер і парадак выплаты якой вызначаюцца па дагаворанасці з наймальнікам.

Артыкул 118. **Умовы прыцягнення работніка да матэрыяльнай адказнасці за ўрон, прычынены наймальніку**

Работнік можа быць прыцягнуты да матэрыяльнай адказнасці за ўрон, прычынены наймальніку вінаватымі дзеяннямі або бяздзеяннем пры выкананні працоўных абавязкаў.

Пры вызначэнні памеру ўрону ўлічваецца толькі прамы сапраўдны ўрон, неатрыманыя даходы не ўлічваюцца.

Недапушчальна ўскладанне на работніка адказнасці за ўрон, які адносіцца да катэгорыі нармальнай вытворча-гаспадарчай рызыкі.

Наймальнік абавязаны ствараць работнікам умовы, неабходныя для нармальнай работы і забеспячэння захаванасці даверанай ім маёмасці.

Артыкул 118[1]. **Добраахвотнае пакрыццё работнікамі ўрону, прычыненага наймальніку**

Работнік, які прычыніў урон, можа добраахвотна пакрыць яго поўнасцю або часткова. Са згоды наймальніка работнік можа перадаць для пакрыцця прычыненага ўрону раўнацэнную маёмасць або паправіць пашкоджанае.

Артыкул 119. **Памеры матэрыяльнай адказнасці работнікаў**

Работнікі, як правіла, нясуць поўную матэрыяльную адказнасць за ўрон, прычынены па іх віне наймальніку.

Заканадаўствам, калектыўнымі дагаворамі, пагадненнямі можа ўстанаўлівацца абмежаваная матэрыяльная адказнасць работнікаў за ўрон, прычынены наймальніку па іх віне, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных артыкулам 121 гэтага Кодэкса.

Артыкул 120. **Выпадкі абмежаванай матэрыяльнай адказнасці работнікаў**

Абмежаваную матэрыяльную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам нясуць:

1) работнікі — у памеры прычыненага па іх віне ўрону, але не вышэй свайго сярэдняга месячнага заробку за псаванне або знішчэнне па нядбайнасці матэрыялаў, паўфабрыкатаў, вырабаў (прадукцыі), у тым ліку пры іх вырабе, а таксама за псаванне або знішчэнне па нядбайнасці інструментаў, вымяральных прыбораў, спецыяльнага адзення і іншых прадметаў, выдадзеных наймальнікам работніку ў карыстанне;

2) кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, іх намеснікі, кіраўнікі структурных падраздзяленняў і іх намеснікі — у памеры прычыненага па іх віне ўрону, але не вышэй трохразовага сярэдняга месячнага заробку, калі ўрон прычынены няправільнай пастаноўкай уліку і захавання матэрыяльных або грашовых каштоўнасцей, непрыняццем неабходных мер да прадухілення прастояў або выпуску недабраякаснай прадукцыі.

Артыкул 121. **Выпадкі поўнай матэрыяльнай адказнасці работнікаў**

Работнікі нясуць матэрыяльную адказнасць у поўным памеры ўрону, прычыненага па іх віне наймальніку, у наступных выпадках:

1) калі паміж работнікам і наймальнікам у адпаведнасці з артыкулам 121[1] гэтага Кодэкса заключаны пісьмовы дагавор аб прыняцці на сябе работнікам поўнай матэрыяльнай адказнасці за незабеспячэнне захаванасці маёмасці і іншых каштоўнасцей, перададзеных яму для захавання або для іншых мэт;

2) калі маёмасць і іншыя каштоўнасці былі атрыманы работнікам пад справаздачу па разавай даверанасці або па іншых разавых дакументах;

3) калі ўрон прычынены дзеяннямі работніка, якія змяшчаюць адзнакі дзеянняў, што праследуюцца ў крымінальным парадку;

4) калі ўрон прычынены работнікам, які знаходзіўся ў нецвярозым стане;

5) калі ўрон прычынены нястачай, наўмысным знішчэннем або наўмысным псаваннем матэрыялаў, паўфабрыкатаў, вырабаў (прадукцыі), у тым ліку пры іх вырабе, а таксама інструментаў, вымяральных прыбораў, спецыяльнага адзення і іншых прадметаў, выдадзеных наймальнікам работніку ў карыстанне;

6) калі ў адпаведнасці з заканадаўствам на работніка ўскладзена поўная матэрыяльная адказнасць за ўрон, прычынены наймальніку пры выкананні працоўных абавязкаў;

7) калі ўрон прычынены не пры выкананні працоўных абавязкаў.

Артыкул 121[1]. **Пісьмовыя дагаворы аб поўнай матэрыяльнай адказнасці**

Пісьмовыя дагаворы аб поўнай матэрыяльнай адказнасці могуць быць заключаны наймальнікам з работнікамі (якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту), што займаюць пасады або выконваюць работы, непасрэдна звязаныя з захаваннем, апрацоўкай, продажам (водпускам), перавозкай або прымяненнем у працэсе вытворчасці перададзеных ім каштоўнасцей. Прыкладны пералік такіх пасад і работ, а таксама прыкладны дагавор аб поўнай індывідуальнай матэрыяльнай адказнасці зацвярджаюцца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 121[2]. **Калектыўная (брыгадная) матэрыяльная адказнасць**

Пры сумесным выкананні работнікамі асобных відаў работ, звязаных з захаваннем, апрацоўкай, продажам (водпускам), перавозкай або прымяненнем у працэсе вытворчасці перададзеных ім каштоўнасцей, калі немагчыма размежаваць матэрыяльную адказнасць кожнага работніка і заключыць з ім дагавор аб поўнай матэрыяльнай адказнасці, можа ўводзіцца калектыўная (брыгадная) матэрыяльная адказнасць.

Пісьмовы дагавор аб калектыўнай (брыгаднай) матэрыяльнай адказнасці заключаецца паміж наймальнікам і ўсімі членамі калектыву (брыгады).

Прыкладны пералік работ, пры выкананні якіх можа ўводзіцца калектыўная (брыгадная) матэрыяльная адказнасць, а таксама прыкладны дагавор аб такой адказнасці зацвярджаюцца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 121[3] выключаны.



Артыкул 122. **Парадак пакрыцця ўрону, прычыненага наймальніку**

Пакрыццё ўрону работнікамі ў размеры, які не перавышае сярэдняга месячнага заработку, праводзіцца па распараджэнню наймальніка шляхам утрымання з заработнай платы работніка. Распараджэнне наймальніка павінна быць зроблена не пазней двух тыдняў з дня выяўлення прычыненага работнікам урону і накіравана да выканання не раней сямі дзён з дня паведамлення аб гэтым работніку. Калі работнік не згодны з вылікам або яго размерам, працоўная спрэчка па яго заяве разглядаецца ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам.

У астатніх выпадках пакрыццё ўрону праводзіцца шляхам прад'яўлення наймальнікам іску ў суд.

Калі наймальнік у парушэнне парадку, устаноўленага часткамі першай і другой гэтага артыкула, зрабіў утрыманне з заработнай платы работніка, то орган па разгляду працоўных спрэчак прымае, па скарзе работніка, рашэнне аб вяртанні незаконна ўтрыманай сумы.

Спагнанне з кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і іх намеснікаў матэрыяльнага ўрону ў судовым парадку праводзіцца па заяве ўласніка або ўпаўнаважанага ім органа ці пракурора.

Пакрыццё ўрону праводзіцца незалежна ад прыцягнення работніка да дысцыплінарнай, адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці за дзеянне (бяздзейнасць), якім прычынены ўрон наймальніку.

Артыкул 123. **Улік канкрэтных абставін пры ўскладанні матэрыяльнай адказнасці на работніка**

Суд можа з улікам ступені віны, канкрэтных абставін і матэрыяльнага становішча работніка паменшыць размер урону, які падлягае пакрыццю.

Зніжэнне размеру ўрону, які падлягае пакрыццю, недапушчальна, калі ўрон прычынены злачынствам, учыненым з карыслівай мэтай.

Артыкул 124. **Абмежаванне ўтрыманняў з заработнай платы**

Утрыманні з заработнай платы могуць праводзіцца толькі ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам.

Утрыманні з заработнай платы работнікаў для пагашэння іх запазычанасці наймальніку могуць праводзіцца па распараджэнню наймальніка:

1) для вяртання авансу, выдадзенага ў лік заработнай пла-

ты; для вяртання сум, залішне выплачаных з прычыны падліковых памылак; для пагашэння незрасходаванага і своечасова не вернутага авансу, выдадзенага на службовую камандзіроўку або перавод у іншую мясцовасць, на гаспадарчыя патрэбы, калі работнік не аспрэчвае падставы і размеру ўтрымання.

У гэтых выпадках наймальнік мае права зрабіць распараджэнне аб утрыманні не пазней аднаго месяца з дня заканчэння тэрміну, устаноўленага для вяртання авансу, пагашэння запазычанасці або з дня няправільна вылічанай выплаты;

2) пры звальненні работніка да заканчэння таго рабочага года, у лік якога ён ужо атрымаў водпуск, за неадпрацаваныя дні водпуску. Утрыманне за гэтыя дні не праводзіцца, калі работнік звальняецца на падставах, указаных у пунктах 3, 5 і 6 артыкула 29 і пунктах 1, 2 і 5 артыкула 33 гэтага Кодэкса, пры накіраванні на вучобу, а таксама ў сувязі з выхадам на пенсію;

3) пры пакрыцці ўрону, прычыненага па віне работніка наймальніку, у размеры, які не перавышае яго сярэдняга месячнага заработку (частка першая артыкула 122).

Заработная плата, залішне выплачаная работніку наймальнікам, у тым ліку пры няправільным прымяненні закона, не можа быць з яго спагнана, за выключэннем выпадкаў падліковай памылкі.

Артыкул 125. **Абмежаванне размеру ўтрыманняў з заработнай платы**

Пры кожнай выплаце заработнай платы агульны размер усіх утрыманняў не можа перавышаць дваццаці працэнтаў, а у выпадках, асоба прадугледжаных заканадаўствам,— пяцідзесяці працэнтаў заработнай платы, належнай да выплаты работніку.

Пры ўтрыманні з заработнай платы па некалькіх выканаўчых дакументах за работнікам ва ўсякім выпадку павінна быць захавана пяцьдзесят працэнтаў заработку.

Абмежаванні, устаноўленыя часткамі першай і другой гэтага артыкула, не распаўсюджваюцца на ўтрыманні з заработнай платы пры адбыванні папраўчых работ і пры спагнанні аліментаў на непаўналетніх дзяцей.

Артыкул 126. **Забарона ўтрыманняў з некаторых сум, якія падлягаюць выплаце работнікам**

Не дапускаюцца ўтрыманні з выхадной дапамогі, кампенсацыйных і іншых выплат, на якія згодна з заканадаўствам не накіроўваецца спагнанне.



## Глава IX
## ПРАЦОЎНАЯ ДЫСЦЫПЛІНА

Артыкул 127. **Абавязкі работнікаў**

Для работнікаў устанаўліваюцца наступныя абавязкі:

1) добрасумленна працаваць;

2) выконваць устаноўленыя нормы па ахове працы;

3) беражліва адносіцца да маёмасці наймальніка і прымаць меры для прадухілення ўрону;

4) выконваць пісьмовыя і вусныя распараджэнні і інструкцыі наймальніка ў адпаведнасці з прадастаўленымі яму паўнамоцтвамі;

5) садзейнічаць павышэнню прадукцыйнасці працы;

6) забяспечваць захаванне ўстаноўленых патрабаванняў да якасці прадукцыі, якая вырабляецца, да работ, якія выконваюцца, да паслуг, якія аказваюцца;

7) не выдаваць камерцыйную тайну наймальніка;

8) павышаць сваю кваліфікацыю па прапанове наймальніка і за яго кошт;

9) падпарадкоўвацца правілам унутранага працоўнага распарадку, іншым дакументам, якія рэгламентуюць пытанні дысцыпліны працы;

10) выконваць іншыя абавязкі, якія вынікаюць з дзеючага заканадаўства, калектыўнага і працоўнага дагавораў.

Артыкул 128 выключаны.

Артыкул 129. **Абавязкі наймальніка**

Наймальнік абавязаны арганізоўваць працу работнікаў, стварацць умовы для росту прадукцыйнасці працы, забяспечваць працоўную і вытворчую дысцыпліну, няўхільна выконваць заканадаўства аб працы і правілы аховы працы, уважліва адносіцца да патрэб і запатрабаванняў работнікаў, паляпшаць умовы іх працы і быту.

Артыкул 130. **Правілы ўнутранага працоўнага распарадку. Статуты і палажэнні аб дысцыпліне**

Унутраны працоўны распарадак рэгулюецца правіламі, якія зацвярджаюцца наймальнікам з удзелам прафсаюзаў.

Для асобных катэгорый работнікаў дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый дзейнічаюць статуты або палажэнні аб дысцыпліне, якія зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 131. **Заахвочванні за поспехі ў рабоце**

За ўзорнае выкананне працоўных абавязкаў, павышэнне прадукцыйнасці працы, паляпшэнне якасці прадукцыі, працяглую і бездакорную работу, наватарства ў працы і іншыя дасягненні ў рабоце прымяняюцца заахвочванні.

Парадак прымянення заахвочванняў вызначаецца ў калектыўным дагаворы.

Артыкул 132 выключаны.

Артыкул 133. **Перавагі і льготы для работнікаў, якія паспяхова і добрасумленна выконваюць свае працоўныя абавязкі**

Работнікам, якія паспяхова і добрасумленна выконваюць свае працоўныя абавязкі, прадастаўляюцца ў першую чаргу перавагі і льготы ў галіне сацыяльна-культурнага і жыллёва-бытавога абслугоўвання (пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку, паляпшэнне жыллёвых умоў і да т. п.). Такім работнікам прадастаўляецца таксама перавага пры павышэнні па рабоце.

Артыкул 134. **Заахвочванні за асобыя працоўныя заслугі**

За асобыя працоўныя заслугі работнікі прадстаўляюцца ў кампетэнтныя органы да заахвочвання, да ўзнагароджвання ордэнамі, медалямі, Ганаровымі граматамі, нагруднымі значкамі і да прысваення ганаровых званняў і звання лепшага работніка па дадзенай прафесіі.

Артыкул 135. **Спагнанні за парушэнне працоўнай дысцыпліны**

За парушэнне працоўнай дысцыпліны, у тым ліку норм па ахове працы, наймальнік можа прымяняць наступныя дысцыплінарныя спагнанні:

1) заўвага;
2) вымова;
3) строгая вымова;
4) — выключаны;
5) звальненне (пункты 3, 4, 7 і 8 артыкула 33).

Заканадаўствам аб дысцыплінарнай адказнасці, статутамі і палажэннямі аб дысцыпліне могуць быць прадугледжаны для асобных катэгорый работнікаў таксама і іншыя дысцыплінарныя спагнанні.

Пры накладанні дысцыплінарнага спагнання павінны ўлічвацца цяжар праступка, абставіны, пры якіх ён учынены, папярэдняя работа і паводзіны работніка на вытворчасці.



Артыкул 136. **Парадак прымянення і абскарджання дысцыплінарных спагнанняў**

Да прымянення дысцыплінарнага спагнання ад работніка павінна быць запатрабавана пісьмовае тлумачэнне.

Дысцыплінарнае спагнанне прымяняецца не пазней аднаго месяца з дня выяўлення праступка, не лічачы часу хваробы работніка або (і) знаходжання яго ў водпуску.

Спагнанне не можа быць прыменена пазней шасці месяцаў, а па выніках рэвізіі або праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці — пазней двух гадоў з дня ўчынення праступка. Ва ўказаныя тэрміны не ўключаецца час вядзення крымінальнай справы.

За кожны праступак можа быць прыменена толькі адно дысцыплінарнае спагнанне.

Загад (распараджэнне) або пастанова аб дысцыплінарным спагнанні з указаннем матываў аб'яўляецца работніку пад распіску ў пяцідзённы тэрмін.

Дысцыплінарнае спагнанне можа быць абскарджана ў парадку, устаноўленым заканадаўствам.

Орган, які разглядае працоўную спрэчку, мае права ўлічваць ступень віны работніка, адпаведнасць дысцыплінарнага спагнання цяжару праступка, абставіны, пры якіх ён учынены, папярэднія паводзіны работніка на вытворчасці і яго адносіны да працы.

Артыкул 136[1]. **Органы (кіраўнікі), правамоцныя прымяняць дысцыплінарныя спагнанні**

Дысцыплінарнае спагнанне прымяняецца органам (кіраўніком), якому прадастаўлена права прыёму (выбрання, зацвярджэння, назначэння на пасаду) і звальнення работнікаў, ці па яго даручэнню іншым органам (кіраўніком).

Дысцыплінарныя спагнанні на работнікаў, якія нясуць дысцыплінарную адказнасць па статутах, палажэннях і іншых спецыяльных актах заканадаўства, могуць накладацца таксама органамі (кіраўнікамі), вышэйстаячымі ў адносінах да органаў (кіраўнікоў), указаных у частцы першай гэтага артыкула.

Работнікі, што займаюць выбарныя пасады, могуць быць звольнены толькі па рашэнню органа, якім яны выбраны, і толькі на падставах, прадугледжаных заканадаўствам.

Артыкул 137. **Зняцце дысцыплінарнага спагнання**

Калі на працягу года з дня прымянення дысцыплінарнага спагнання работнік не будзе падвергнуты новаму дысцыплі-

нарнаму спагнанню, то ён лічыцца не падвергнутым дысцыплінарнаму спагнанню.

Органам (кіраўнікоМ), прымяніўшым спагнанне, яно можа быць знята да сканчэння года па ўласнай ініцыятыве, па хадайніцтву непасрэднага кіраўніка або працоўнага калектыву.

Артыкул 138. **Перадача пытання аб парушэнні працоўнай дысцыпліны на разгляд працоўнага калектыву, таварыскага суда або грамадскай арганізацыі**

Наймальнік мае права замест прымянення дысцыплінарнага спагнання перадаць пытанне аб парушэнні працоўнай дысцыпліны на разгляд працоўнага калектыву, таварыскага суда або грамадскай арганізацыі.

## Глава X
## АХОВА ПРАЦЫ

Артыкул 139. **Забеспячэнне здаровых і бяспечных умоў працы**

Наймальнік абавязаны ствараць работнікам здаровыя і бяспечныя ўмовы працы, укараняць найноўшыя сродкі і тэхналогіі, якія забяспечваюць выкананне санітарна-гігіенічных норм і патрабаванняў стандартаў па ахове працы.

Артыкул 140. **Выкананне патрабаванняў аховы працы пры будаўніцтве і эксплуатацыі вытворчых будынкаў, збудаванняў і абсталявання**

Вытворчыя будынкі, збудаванні, абсталяванне, тэхналагічныя працэсы павінны адпавядаць патрабаванням, якія забяспечваюць здаровыя і бяспечныя ўмовы працы.

Гэтыя патрабаванні ўключаюць рацыянальнае выкарыстанне тэрыторыі і вытворчых памяшканняў, правільную эксплуатацыю абсталявання і арганізацыю тэхналагічных працэсаў, абарону працуючых ад уздзеяння шкодных умоў працы, утрыманне вытворчых памяшканняў і рабочых месцаў у адпаведнасці з санітарна-гігіенічнымі нормамі і правіламі, упарадкаванне санітарна-бытавых памяшканняў.

Пры праектаванні, будаўніцтве і эксплуатацыі вытворчых будынкаў і збудаванняў павінны выконвацца правілы і нормы па ахове працы.

Праекты машын, станкоў і іншага вытворчага абсталявання павінны адпавядаць патрабаванням па тэхніцы бяспекі і вытворчай санітарыі.



Артыкул 141. **Забарона ўводу ў эксплуатацыю прадпрыемстваў, якія не адпавядаюць патрабаванням аховы працы**

Ні адно прадпрыемства, цэх, участак, вытворчасць не могуць быць прыняты і ўведзены ў эксплуатацыю, калі на іх не забяспечаны здаровыя і бяспечныя ўмовы працы.

Увод у эксплуатацыю новых і рэканструяваных аб'ектаў вытворчага прызначэння не дапускаецца без дазволу кампетэнтных дзяржаўных органаў. Іх рашэнні могуць быць абскарджаны ў вышэйстаячы орган або ў суд.

Артыкул 142. **Забарона перадачы ў вытворчасць узораў новых машын і іншага абсталявання, якія не адпавядаюць патрабаванням аховы працы**

Ні адзін узор новай машыны, механізма і іншага вытворчага абсталявання не можа быць перададзены ў вытворчасць, калі ён не адпавядае патрабаванням аховы працы.

Артыкул 143. **Правілы па ахове працы, абавязковыя для наймальніка**

Наймальнік абавязаны забяспечваць належнае тэхнічнае абсталяванне ўсіх рабочых месцаў і ствараць на іх умовы работы, якія адпавядаюць правілам па ахове працы (правілам па тэхніцы бяспекі, санітарным нормам і правілам і інш.). Такія правілы зацвярджаюцца з удзелам прафсаюзаў у парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Пры адсутнасці ў правілах патрабаванняў, выкананне якіх пры правядзенні работ неабходна для забеспячэння бяспечных умоў працы, наймальнік прымае меры, якія забяспечваюць бяспечныя ўмовы працы.

Артыкул 144. **Інструктаж работнікаў па тэхніцы бяспекі і вытворчай санітарыі**

На наймальніка ўскладаецца правядзенне інструктажу работнікаў па тэхніцы бяспекі, вытворчай санітарыі, супрацьпажарнай ахове і іншых правілах аховы працы.

Артыкул 145. **Інструкцыі па ахове працы, абавязковыя для работнікаў**

Работнікі абавязаны выконваць інструкцыі па ахове працы, якія ўстанаўліваюць правілы выканання работ і паводзін у вытворчых памяшканнях і на будаўнічых пляцоўках. Такія інструкцыі распрацоўваюцца і зацвярджаюцца наймальнікам з удзелам прафсаюзаў. Міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі,

ведамствамі з удзелам рэспубліканскіх органаў прафсаюзаў, а ў неабходных выпадках і з адпаведнымі органамі дзяржаўнага нагляду (артыкул 245) могуць зацвярджацца тыпавыя інструкцыі па ахове працы для рабочых асноўных прафесій.

Работнікі абавязаны таксама выконваць устаноўленыя патрабаванні абыходжання з машынамі і механізмамі, карыстацца сродкамі індывідуальнай аховы, якія ім выдаюцца.

Артыкул 146. **Кантроль за выкананнем патрабаванняў інструкцый па ахове працы**

Пастаянны кантроль за выкананнем работнікамі ўсіх патрабаванняў інструкцый па ахове працы ўскладаецца на наймальніка.

Артыкул 147. **Абавязкі наймальніка па расследаванню і ўліку няшчасных выпадкаў на вытворчасці**

Наймальнік з удзелам прадстаўнікоў прафсаюзаў, а ва ўстаноўленых заканадаўствам выпадках з удзелам прадстаўнікоў і іншых органаў абавязаны своечасова і правільна праводзіць расследаванне і ўлік няшчасных выпадкаў на вытворчасці.

Наймальнік абавязаны па патрабаванню пацярпеўшага выдаць яму акт аб няшчасным выпадку не пазней трох дзён пасля заканчэння расследавання па ім.

Пры адмове наймальніка ў складанні акта аб няшчасным выпадку або пры нязгодзе пацярпеўшага з выкладзенымі ў акце абставінамі няшчаснага выпадку пацярпеўшы мае права звярнуцца ў спецыяльна ўпаўнаважаны дзяржаўны орган (інспекцыю) або ў суд.

На аснове матэрыялаў расследавання і ўліку няшчасных выпадкаў наймальнік абавязаны своечасова прымаць неабходныя меры для ўстаранення прычын, якія выклікаюць няшчасныя выпадкі.

Артыкул 148. **Сродкі на мерапрыемствы па ахове працы**

Для правядзення мерапрыемстваў па ахове працы выдзяляюцца ва ўстаноўленым парадку сродкі і неабходныя матэрыялы. Расходаванне гэтых сродкаў і матэрыялаў на іншыя мэты забараняецца.

Парадак выкарыстання ўказаных сродкаў і матэрыялаў вызначаецца ў калектыўных дагаворах або ў пагадненнях па ахове працы.

Працоўныя калектывы кантралююць выкарыстанне сродкаў, прызначаных на ахову працы.



Артыкул 149. **Выдача спецыяльнага адзення і іншых сродкаў індывідуальнай абароны**

На работах са шкоднымі ўмовамі працы, а таксама на работах, якія праводзяцца ў асаблівых тэмпературных умовах або звязаных з забруджаннем, работнікам выдаюцца бясплатна па ўстаноўленых нормах спецыяльнае адзенне, спецыяльны абутак і іншыя сродкі індывідуальнай абароны.

Наймальнік абавязаны забяспечваць захоўванне, мыццё, сушку, дэзінфекцыю, дэгазацыю, дэзактывацыю і рамонт выдадзеных работнікам спецыяльнага адзення, спецыяльнага абутку і іншых сродкаў індывідуальнай абароны.

Артыкул 150. **Выдача мыла і абясшкоджвальных сродкаў**

На работах, звязаных з забруджаннем, работнікам выдаецца бясплатна па ўстаноўленых нормах мыла. На работах, дзе магчыма ўздзеянне на скуру шкодна дзеючых рэчываў, выдаюцца бясплатна па ўстаноўленых нормах змывальныя і абясшкоджвальныя сродкі.

Артыкул 151. **Выдача малака і лячэбна-прафілактычнага харчавання**

На работах са шкоднымі ўмовамі працы работнікам выдаюцца бясплатна па ўстаноўленых нормах малако або іншыя раўнацэнныя харчовыя прадукты.

На работах з асабліва шкоднымі ўмовамі працы прадастаўляецца бясплатна па ўстаноўленых нормах лячэбна-прафілактычнае харчаванне.

Артыкул 152. **Забеспячэнне работнікаў гарачых цэхаў газіраванай салёнай вадой**

Наймальнік абавязаны бясплатна забяспечваць работнікаў гарачых цэхаў газіраванай салёнай вадой.

Цэхі і вытворчыя ўчасткі, у якіх арганізуецца забеспячэнне газіраванай салёнай вадой, устанаўліваюцца органамі санітарнага нагляду па ўзгадненню з наймальнікам.

Артыкул 153. **Перапынкі, якія ўключаюцца ў рабочы час**

Работнікам, якія працуюць у халодны час года на адкрытым паветры або ў закрытых памяшканнях, якія не абаграваюцца, грузчыкам, занятым на пагрузачна-разгрузачных работах, а таксама іншым катэгорыям работнікаў у выпадках, прадугледжаных заканадаўствам і калектыўным дагаворам, прадастаўляюцца спецыяльныя перапынкі для абагравання і адпачынку, якія ўключаюцца ў рабочы час. Наймальнік абавязаны абста-

лявацъ памяшканні для абагравання і адпачынку работнікаў.

### Артыкул 154. **Медыцынскія агляды работнікаў некаторых катэгорый**

Работнікі, занятыя на цяжкіх работах і на работах са шкоднымі або небяспечнымі ўмовамі працы (у тым ліку на падземных работах), а таксама на работах, звязаных з рухам транспарту, праходзяць абавязковыя папярэднія пры паступленні на работу і перыядычныя (асобы ва ўзросце да 21 года — штогадовыя) медыцынскія агляды для вызначэння прыгоднасці іх да даручаемай работы і папярэджання прафесіянальных захворванняў.

Работнікі прадпрыемстваў харчовай прамысловасці, грамадскага харчавання і гандлю, водаправодных збудаванняў, лячэбна-прафілактычных і дзіцячых устаноў, а таксама некаторых іншых прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый праходзяць указаныя медыцынскія агляды ў мэтах аховы здароўя насельніцтва.

Абавязковыя перыядычныя медыцынскія агляды праводзяцца ў рабочы час з захаваннем сярэдняга заработку.

### Артыкул 155. **Перавод на больш лёгкую работу**

Работнікаў, якія маюць патрэбу па стану здароўя ў прадастаўленні больш лёгкай работы, наймальнік абавязаны перавесці, з іх згоды, на такую работу ў адпаведнасці з медыцынскім заключэннем часова або без абмежавання тэрміну.

### Артыкул 156. **Аплата працы работнікаў, пераведзеных на больш лёгкую работу**

Пры пераводзе па стану здароўя на больш лёгкую ніжэйаплатную работу за работнікамі захоўваецца ранейшы сярэдні заработак на працягу двух тыдняў з дня пераводу.

Работнікам, часова пераведзеным на іншую ніжэйаплатную работу ў сувязі з захворваннем туберкулёзам або прафесіянальным захворваннем, выдаецца за ўвесь час пераводу, але не больш чым за два месяцы, дапамога па бальнічнаму лістку ў такім размеры, каб разам з заработкам па новай рабоце яна не перавышала поўнага фактычнага заработку па ранейшай рабоце. Калі іншая работа не была прадастаўлена наймальнікам у тэрмін, указаны ў бальнічным лістку, то за прапушчаныя з прычыны гэтага дні дапамога выплачваецца на агульных падставах.

Работнікам, часова пераведзеным на ніжэйаплатную работу ў сувязі з калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з работай, наймальнікі, адказныя за пашкоджанне здароўя, выплачваюць розніцу паміж ранейшым заработкам і заработкам па новай рабоце. Такая розніца выплачваецца да аднаўлення працаздольнасці або ўстанаўлення стойкай страты працаздольнасці або інваліднасці.

Заканадаўствам могуць прадугледжвацца і іншыя выпадкі захавання ранейшага сярэдняга заработку або выплаты дапамогі па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню пры пераводзе па стану здароўя на больш лёгкую ніжэйаплатную работу.

### Артыкул 157. **Прымяненне працы інвалідаў**

У выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, наймальнік абавязаны прымаць на работу ў парадку працаўладкавання інвалідаў і ўстанаўліваць ім у адпаведнасці з медыцынскім заключэннем няпоўны рабочы час і іншыя льготныя ўмовы працы.

Прыцягненне інвалідаў да звышурочнай работы, работы ў выхадныя дні і начны час дапускаецца толькі з іх згоды і пры ўмове, калі такая работа не забаронена медыцынскім заключэннем.

Працуючыя інваліды маюць права на льготы і перавагі, прадугледжаныя заканадаўствам і калектыўнымі дагаворамі.

### Артыкул 158. **Перавозка ў лячэбныя ўстановы работнікаў, якія захварэлі на месцы работы**

Перавозка ў лячэбныя ўстановы работнікаў, якія захварэлі на месцы работы, праводзіцца ў неабходных выпадках транспартнымі сродкамі або за кошт наймальніка.

### Артыкул 159. **Матэрыяльная адказнасць наймальнікаў за ўрон, прычынены работнікам пашкоджаннем іх здароўя**

Наймальнікі нясуць у адпаведнасці з заканадаўствам матэрыяльную адказнасць за ўрон, прычынены работнікам калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем імі сваіх працоўных абавязкаў.

## Глава XI
## ПРАЦА ЖАНЧЫН. ГАРАНТЫІ І ЛЬГОТЫ СЕМ'ЯМ, ЯКІЯ МАЮЦЬ ДЗЯЦЕЙ

### Артыкул 160. **Работы, на якіх забараняецца прымяненне працы жанчын**

Забараняецца прымяненне працы жанчын на цяжкіх работах і на работах са шкоднымі ўмовамі працы, а таксама на падземных работах, акрамя некаторых падземных работ (нефізіч-

ных работ або работ па санітарнаму і бытавому абслугоўванню).

Спіс цяжкіх работ і работ са шкоднымі ўмовамі працы, на якіх забараняецца прымяненне працы жанчын, зацвярджаецца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам.

Забараняюцца пераноска і перасоўванне жанчынамі цяжараў, якія перавышаюць устаноўленыя для іх гранічныя нормы.

Артыкул 161. **Абмежаванні працы жанчын на работах у начны час**

Прыцягненне жанчын да работ у начны час не дапускаецца, за выключэннем тых галін народнай гаспадаркі, дзе гэта выклікаецца асаблівай неабходнасцю і дазваляецца ў якасці часовай меры.

Артыкул 162. **Забарона начных, звышурочных работ і накіравання ў камандзіроўку цяжарных жанчын і жанчын, якія маюць дзяцей ва ўзросце да трох гадоў**

Не дапускаецца прыцягненне да работ у начны час, да звышурочных работ і работ у выхадныя дні і накіраванне ў камандзіроўку цяжарных жанчын і жанчын, якія маюць дзяцей ва ўзросце да трох гадоў.

Артыкул 163. **Абмежаванне звышурочных работ і накіравання ў камандзіроўку жанчын, якія маюць дзяцей ва ўзросце ад трох да чатырнаццаці гадоў (дзяцей-інвалідаў — да шаснаццаці гадоў)**

Жанчыны, якія маюць дзяцей ва ўзросце ад трох да чатырнаццаці гадоў (дзяцей-інвалідаў — да шаснаццаці гадоў), не могуць прыцягвацца да звышурочных работ або накіроўвацца ў камандзіроўку без іх згоды.

Артыкул 164. **Перавод на больш лёгкую работу цяжарных жанчын і жанчын, якія маюць дзяцей ва ўзросце да паўтара гадоў**

Цяжарным жанчынам у адпаведнасці з медыцынскім заключэннем зніжаюцца нормы выпрацоўкі, нормы абслугоўвання або яны пераводзяцца на іншую работу, больш лёгкую і якая выключае ўздзеянне неспрыяльных вытворчых фактараў, з захаваннем сярэдняга заработку па ранейшай рабоце.

Да вырашэння пытання аб прадастаўленні цяжарнай жанчыне ў адпаведнасці з медыцынскім заключэннем іншай, больш лёгкай і якая выключае ўздзеянне неспрыяльных вытворчых



фактараў работы яна падлягае вызваленню ад работы з захаваннем сярэдняга заработку за ўсе прапушчаныя з прычыны гэтага рабочыя дні за кошт наймальніка.

Жанчыны, якія маюць дзяцей ва ўзросце да паўтара гадоў, у выпадку немагчымасці выканання ранейшай работы пераводзяцца на іншую работу з захаваннем сярэдняга заработку па ранейшай рабоце да дасягнення дзіцем узросту паўтара гадоў.

Артыкул 165. **Водпуск па цяжарнасці і родах**

Жанчынам прадастаўляецца водпуск па цяжарнасці і родах працягласцю семдзесят каляндарных дзён да родаў і пяцьдзесят шэсць (у выпадках ускладненых родаў або нараджэння двух і больш дзяцей — семдзесят) каляндарных дзён пасля родаў з выплатай за гэты перыяд дапамогі па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню. Водпуск па цяжарнасці і родах вылічваецца сумарна і прадастаўляецца жанчыне поўнасцю незалежна ад колькасці дзён, фактычна выкарыстаных да родаў.

Артыкул 166. **Час прадастаўлення штогадовага водпуску жанчынам у сувязі з водпускам па цяжарнасці і родах**

Перад водпускам па цяжарнасці і родах або пасля яго жанчыне, па яе заяве, прадастаўляецца штогадовы водпуск незалежна ад стажу работы ў дадзенага наймальніка.

Артыкул 167. **Водпуск па догляду за дзіцем**

Незалежна ад працоўнага стажу па жаданню жанчыны ёй прадастаўляецца водпуск па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту трох гадоў, з выплатай за гэты перыяд штомесячнай дзяржаўнай дапамогі, памеры і ўмовы выплаты якой устанаўліваюцца заканадаўствам.

Водпуск па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту трох гадоў прадастаўляецца поўнасцю або па частках маці дзіцяці ці па меркаванню сям'і бацьку або іншым сваякам, якія працуюць і фактычна ажыццяўляюць догляд за дзіцем.

Па жаданню асоб, указаных у частцы другой гэтага артыкула, у перыяд знаходжання іх у водпуску па догляду за дзіцем яны могуць працаваць на ўмовах няпоўнага рабочага часу або дома. Пры гэтым за імі захоўваецца права на атрыманне штомесячнай дзяржаўнай дапамогі.

За час водпуску па догляду за дзіцем захоўваецца месца работы (пасада).

Перыяд знаходжання ў водпуску па догляду за дзіцем залічваецца ў агульны і бесперапынны стаж работы, а таксама ў стаж работы па спецыяльнасці.

У стаж работы, які дае права на наступныя штогадовыя водпускі, час водпуску, указанага ў гэтым артыкуле, не залічваецца.

Артыкул 167[1]. **Гарантыі па захаванню бесперапыннага працоўнага стажу жанчынам, якія маюць дзяцей**

Жанчынам захоўваецца бесперапынны працоўны стаж для вылічэння дапамог па часовай непрацаздольнасці ў выпадку спынення працоўнага дагавора ў сувязі з доглядам за дзіцем ва ўзросце да 14 гадоў (у тым ліку якія знаходзяцца пад іх апекай) або дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў пры ўмове паступлення на работу да дасягнення дзіцем указанага ўзросту.

Артыкул 167[2]. **Дадатковы свабодны ад работы дзень**

Маці, якая выхоўвае дзіця-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў, па яе заяве штомесячна прадастаўляецца адзін свабодны ад работы дзень з аплатай у размеры сярэдняга дзённага заробтку за кошт сродкаў сацыяльнага страхавання.

Маці, якая выхоўвае двух і больш дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, па яе заяве штомесячна прадастаўляецца адзін свабодны ад работы дзень з аплатай у размеры і на ўмовах, прадугледжаных у калектыўным дагаворы.

Артыкул 168. **Водпускі жанчынам, якія ўсынавілі дзяцей**

Жанчынам, якія ўсынавілі нованароджаных дзяцей непасрэдна з радзільнага дома, прадастаўляецца водпуск за перыяд з дня ўсынаўлення і да сканчэння пяцідзесяці шасці дзён з дня нараджэння дзіцяці з выплатай ім за гэты перыяд дапамогі па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню.

Па заяве жанчыны, усынавіўшай дзіця, ёй у выпадках і парадку, прадугледжаных артыкулам 167 гэтага Кодэкса, прадастаўляюцца водпускі па догляду за дзіцем.

Артыкул 169. **Перапынкі для кармлення дзіцяці**

Жанчынам, якія маюць дзяцей ва ўзросце да паўтара гадоў, прадастаўляюцца апрача агульнага перапынку для адпачынку і харчавання дадатковыя перапынкі для кармлення дзіцяці.

Гэтыя перапынкі прадастаўляюцца не радзей чым праз тры гадзіны працягласцю не менш трыццаці мінут кожны. Пры наяўнасці двух або больш дзяцей ва ўзросце да паўтара гадоў працягласць перапынку ўстанаўліваецца не менш гадзіны.

Перапынкі для кармлення дзіцяці ўключаюцца ў рабочы час і аплачваюцца па сярэдняму заработку.



Тэрміны і парадак прадастаўлення перапынкаў устанаўліваюцца наймальнікам з улікам пажаданняў маці.

Артыкул 170. **Гарантыі пры заключэнні і спыненні працоўнага дагавора для цяжарных жанчын і жанчын, якія маюць дзяцей**

Забараняецца адмаўляць жанчынам у заключэнні працоўнага дагавора і зніжаць ім заработную плату па матывах, звязаных з цяжарнасцю або наяўнасцю дзяцей ва ўзросце да трох гадоў, а адзінокім маці — з наяўнасцю дзіцяці ва ўзросце да 14 гадоў (дзіцяці-інваліда — да 16 гадоў).

Пры адмове ў заключэнні працоўнага дагавора ўказаным катэгорыям жанчын наймальнік абавязаны паведаміць ім матывы ў пісьмовай форме. Адмова ў заключэнні працоўнага дагавора можа быць абскарджана ў суд.

Скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка з цяжарнымі жанчынамі і жанчынамі, якія маюць дзяцей ва ўзросце да трох гадоў, не дапускаецца, акрамя выпадкаў ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі, спынення дзейнасці прадпрымальніка. З адзінокімі маці, якія маюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 14 гадоў (дзяцей-інвалідаў — да 16 гадоў), скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка дапускаецца ў выпадку ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі, спынення дзейнасці прадпрымальніка, а таксама на падставах, прадугледжаных пунктамі 3, 4, 7 і 8 артыкула 33 і пунктамі 1—3 артыкула 254 гэтага Кодэкса.

Артыкул 171. **Выдача цяжарным жанчынам пуцёвак у санаторыі і дамы адпачынку і аказанне ім матэрыяльнай дапамогі**

Наймальнік у выпадку неабходнасці можа выдаваць цяжарным жанчынам пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку бясплатна або на льготных умовах, а таксама аказваць ім матэрыяльную дапамогу.

Артыкул 172. **Дадатковыя льготы работніцам у наймальнікаў, якія шырока прымяняюць працу жанчын**

Наймальнікі, якія шырока прымяняюць працу жанчын, па сваёй ініцыятыве, а таксама ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам або калектыўным дагаворам, арганізуюць дзіцячыя яслі і сады, пакоі для кармлення грудных дзяцей і асабістай гігіены жанчын, вызначаюць у адпаведнасці з медыцынскімі рэкамендацыямі рабочыя месцы і віды работ (у тым ліку дома), на якія пры неабходнасці могуць пераводзіцца цяжар-

ныя жанчыны, а таксама ствараюць самастойна або на долевых пачатках спецыяльныя падраздзяленні для выкарыстання іх працы.

Артыкул 172[1]. **Ільготы работнікам, якія выхоўваюць дзяцей без маці**

Ільготы, што прадастаўляюцца заканадаўствам жанчынам-маці, якія працуюць, распаўсюджваюцца на бацькоў, што выхоўваюць дзяцей без маці (у сувязі з яе смерцю, пазбаўленнем бацькоўскіх правоў, працяглым — больш за месяц — знаходжаннем у лячэбнай установе і іншымі прычынамі), а таксама на апекуноў (папячыцеляў) дзяцей адпаведнага ўзросту.

## Глава XII
## ПРАЦА МОЛАДЗІ

Артыкул 173. **Узрост, з якога дапускаецца заключэнне працоўнага дагавора**

Не дапускаецца заключэнне працоўнага дагавора з асобамі, маладзейшымі за 16 гадоў.

З пісьмовай згоды аднаго з бацькоў (апекуноў, папячыцеляў) працоўны дагавор можа быць заключаны з асобай, якая дасягнула 14 гадоў.

Артыкул 174. **Правы непаўналетніх у працоўных праваадносінах**

Непаўналетнія (асобы, якія не дасягнулі васемнаццаці гадоў) у працоўных праваадносінах прыраўноўваюцца ў правах да паўналетніх, а ў галіне аховы працы, рабочага часу, водпускаў і некаторых іншых умоў працы карыстаюцца льготамі, устаноўленымі гэтым Кодэксам і іншымі актамі заканадаўства.

Артыкул 175. **Работы, на якіх забараняецца прымяненне працы асоб, маладзейшых за васемнаццаць гадоў**

Забараняецца прымяненне працы асоб, маладзейшых за васемнаццаць гадоў, на цяжкіх работах і на работах са шкоднымі або небяспечнымі ўмовамі працы, на падземных і горных работах.

Спіс работ, на якіх забараняецца прымяненне працы асоб, маладзейшых за васемнаццаць гадоў, зацвярджаецца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам.

Забараняецца пераноска і перасоўванне непаўналетнімі цяжараў, што перавышаюць устаноўленыя для іх гранічныя нормы.



Артыкул 176. **Медыцынскія агляды асоб, маладзейшых за васемнаццаць гадоў**

Усе асобы, маладзейшыя за васемнаццаць гадоў, прымаюцца на работу толькі пасля папярэдняга медыцынскага агляду і ў далейшым, да дасягнення васемнаццаці гадоў, штогод падлягаюць абавязковаму медыцынскаму агляду.

Абавязковыя штогадовыя медыцынскія агляды непаўналетніх работнікаў праводзяцца ў рабочы час з захаваннем сярэдняга заработку.

Артыкул 177. **Забарона прыцягваць работнікаў, маладзейшых за васемнаццаць гадоў, да начных і звышурочных работ і да работ у выхадныя дні**

Забараняецца прыцягваць работнікаў, маладзейшых за васемнаццаць гадоў, да начных і звышурочных работ і да работ у выхадныя дні.

Артыкул 178. **Водпускі работнікам, маладзейшым за васемнаццаць гадоў**

Штогадовыя водпускі работнікам, маладзейшым за васемнаццаць гадоў (частка другая артыкула 67), прадастаўляюцца ў летні час або, па іх жаданню, у любую іншую пару года.

Артыкул 179. **Нормы выпрацоўкі для работнікаў, маладзейшых за васемнаццаць гадоў**

Для работнікаў, маладзейшых за васемнаццаць гадоў, нормы выпрацоўкі ўстанаўліваюцца зыходзячы з норм выпрацоўкі для дарослых работнікаў прапарцыянальна скарочанай працягласці рабочага часу, прадугледжанай заканадаўствам для дадзенай катэгорыі работнікаў (артыкул 43).

Артыкул 180. **Нормы выпрацоўкі для маладых работнікаў**

Для работнікаў, якія паступаюць на прадпрыемства пасля заканчэння агульнаадукацыйных, прафесіянальна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, курсаў, прайшлі навучанне непасрэдна на вытворчасці, могуць устанаўлівацца паніжаныя нормы выпрацоўкі. Размеры паніжэння норм і тэрміны іх дзеяння вызначаюцца ў калектыўным дагаворы.

Артыкул 181. **Аплата працы работнікаў, маладзейшых за васемнаццаць гадоў, пры скарочанай працягласці штодзённай работы**

Заработная плата работнікам, маладзейшым за васемнац-

цаць гадоў, пры скарочанай працягласці штодзённай работы выплачваецца ў такім жа размеры, як работнікам адпаведных катэгорый пры поўнай працягласці штодзённай работы.

Праца работнікаў, маладзейшых за васемнаццаць гадоў, дапушчаных да здзельных работ, аплачваецца па здзельных расцэнках, устаноўленых для дарослых работнікаў, з даплатай па тарыфнай стаўцы за час, на які працягласць іх штодзённай работы скарачаецца ў параўнанні з працягласцю штодзённай работы дарослых работнікаў.

Аплата працы навучэнцаў агульнаадукацыйных, прафесіянальна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, якія працуюць у свабодны ад навучання час, праводзіцца прапарцыянальна адпрацаванаму часу або ў залежнасці ад выпрацоўкі. Прадпрыемствамі могуць устанаўлівацца навучэнцам даплаты да заработнай платы.

Артыкул 182. **Броня прыёму асоб, маладзейшых за васемнаццаць гадоў, на работу і прафесіянальнае навучанне на вытворчасці**

Прадпрыемствам і арганізацыям мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў можа ўстанаўлівацца броня прыёму на работу і прафесіянальнае навучанне на вытворчасці для асоб, маладзейшых за васемнаццаць гадоў, уключаючы тых, хто закончыў агульнаадукацыйныя і прафесіянальна-тэхнічныя навучальныя ўстановы.

Адмова ў прыёме на работу і прафесіянальнае навучанне ўказаным асобам, накіраваным у лік броні, забараняецца. Такая адмова можа быць абскарджана імі ў суд.

Артыкул 183 выключаны.

Артыкул 184. **Забеспячэнне работай выпускнікоў навучальных устаноў**

Выпускнікі прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў і маладыя спецыялісты, якія закончылі вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, аспіранты, што завяршылі навучанне ў вочнай аспірантуры, і накіраваны па дагаворах (заяўках) да наймальнікаў, забяспечваюцца работай у адпаведнасці з заключанымі дагаворамі (заяўкамі).

Артыкул 185. **Дадатковыя гарантыі работнікам, маладзейшым за васемнаццаць гадоў, пры скасаванні працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка**

Скасаванне працоўнага дагавора з работнікамі, маладзейшымі за 18 гадоў на падставах, прадугледжаных пунктамі 1, 2,



5 і 6 артыкула 33 гэтага Кодэкса, дапускаецца, апрача захавання агульнага парадку, толькі са згоды, а на падставах, прадугледжаных пунктамі 3, 4, 7 і 8 артыкула 33 і пунктамі 1—3 артыкула 254 гэтага Кодэкса,— пасля папярэдняга, не менш чым за два тыдні, паведамлення раённай (гарадской) камісіі па справах непаўналетніх.

Артыкул 186 выключаны.

## Глава XIII
## ІЛЬГОТЫ ДЛЯ РАБОТНІКАЎ, ЯКІЯ СУМЯШЧАЮЦЬ РАБОТУ З НАВУЧАННЕМ

Артыкул 187. **Арганізацыя прафесіянальнага навучання на вытворчасці**

Для прафесіянальнай падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі работнікаў, асабліва моладзі, наймальнік арганізуе за свой кошт індывідуальнае, брыгаднае, курсавое і іншыя формы прафесіянальнага навучання на вытворчасці.

Артыкул 188. **Навучанне ў межах рабочага часу**

Прафесіянальнае навучанне на курсах, у вучэбна-курсавых камбінатах і ў іншых формах прафесіянальнага навучання на вытворчасці праводзіцца ў межах рабочага часу, устаноўленага заканадаўствам аб працы для работнікаў адпаведных узростаў, прафесій і вытворчасцей.

Артыкул 189. **Прадастаўленне работы ў адпаведнасці з атрыманай прафесіяй і кваліфікацыяй**

Па заканчэнні прафесіянальнага навучання на вытворчасці работніку прысвойваецца пэўная кваліфікацыя (разрад, клас, катэгорыя ці іншая) па прафесіі і прадастаўляецца работа ў адпаведнасці з дагаворам на навучанне.

Артыкул 190. **Стварэнне неабходных умоў для сумяшчэння работы з навучаннем**

Работнікам, якія праходзяць прафесіянальнае навучанне на вытворчасці ці навучаюцца ў адпаведнасці з накіраваннем (заяўкай) наймальніка або заключанымі з ім дагаворамі (на падрыхтоўку, калектыўным ці працоўным) у навучальных установах без адрыву ад вытворчасці, наймальнік абавязаны ствараць неабходныя ўмовы для сумяшчэння работы з навучаннем.

## Артыкул 191. Заахвочванне работнікаў, якія сумяшчаюць работу з навучаннем

Пры ўстанаўленні больш высокай кваліфікацыі (разраду, класа, катэгорыі і іншай) па прафесіі або пры павышэнні па рабоце павінны ўлічвацца паспяховае праходжанне работнікамі прафесіянальнага навучання на вытворчасці, агульная сярэдняя і прафесіянальна-тэхнічная адукацыя, а таксама атрыманне імі вышэйшай або сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

## Артыкул 192. Ільготы для работнікаў, якія навучаюцца ў агульнаадукацыйных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных установах

Для работнікаў, якія паспяхова навучаюцца без адрыву ад вытворчасці ў агульнаадукацыйных і па накіраванню (заяўцы) наймальніка або ў адпаведнасці з заключанымі з ім дагаворамі (на падрыхтоўку, калектыўным ці працоўным) у прафесіянальна-тэхнічных навучальных установах, устанаўліваецца скарочаны рабочы тыдзень або скарочаная працягласць штодзённай работы з захаваннем заработнай платы ва ўстаноўленым парадку; ім прадастаўляюцца таксама і іншыя льготы.

## Артыкул 193. Скарачэнне рабочага часу для тых, хто навучаецца ў агульнаадукацыйных школах

Для работнікаў, якія навучаюцца без адрыву ад вытворчасці ў сярэдніх агульнаадукацыйных вячэрніх (зменных) і завочных школах, у перыяд навучальнага года ўстанаўліваецца скарочаны рабочы тыдзень: у школах рабочай моладзі — не менш чым на адзін рабочы дзень або колькасць рабочых гадзін, якая яму адпавядае (пры скарачэнні рабочага дня на працягу тыдня), у школах сельскай моладзі — не менш чым на два рабочых дні або колькасць рабочых гадзін, якая ім адпавядае (пры скарачэнні рабочага дня на працягу тыдня).

Указаныя асобы вызваляюцца ад работы на працягу навучальнага года не менш чым на 36 рабочых дзён пры шасцідзённым рабочым тыдні або на колькасць рабочых гадзін, якая ім адпавядае. Пры пяцідзённым рабочым тыдні колькасць свабодных ад работы дзён змяняецца ў залежнасці ад працягласці рабочай змены пры захаванні колькасці свабодных ад работы гадзін.

За час вызвалення ад работы ўказаным асобам выплачваецца не менш пяцідзесяці працэнтаў сярэдняй заработнай платы па асноўным месцы работы, але не ніжэй устаноўленай мінімальнай велічыні заработнай платы.

Наймальнікі могуць прадастаўляць без урону для вытворчай дзейнасці работнікам, якія навучаюцца ў сярэдніх агульнаадукацыйных вячэрніх (зменных) і завочных школах, па іх жаданню, у перыяд навучальнага года адзін-два свабодных ад работы дні ў тыдзень без захавання заработнай платы і іншыя льготы.

У асобных выпадках, калі па ўмовах вытворчасці (сезонны, рухомы характар работы і да т. п.) асобы, якія навучаюцца ў сярэдніх агульнаадукацыйных вячэрніх (зменных) і завочных школах, не могуць рэгулярна карыстацца свабоднымі днямі, наймальнікі могуць прадастаўляць ім свабодныя ад работы дні ў падсумаваным выглядзе (узамен штотыднёвага прадастаўлення гэтых дзён) у міжсезонны перыяд або іншы перыяд найменшай занятасці на вытворчасці.

## Артыкул 194. Водпускі ў сувязі з навучаннем ў агульнаадукацыйных школах

Работнікам, якія навучаюцца без адрыву ад вытворчасці ў сярэдніх агульнаадукацыйных вячэрніх (зменных) і завочных школах, прадастаўляецца на перыяд здачы выпускных экзаменаў у 12-м класе дадатковы водпуск працягласцю не менш 20 рабочых дзён, а ў 9-м класе — не менш 8 рабочых дзён з захаваннем сярэдняй заработнай платы па асноўным месцы работы.

Работнікам, дапушчаным да экзаменаў у парадку экстэрнату за няпоўную сярэднюю школу, прадастаўляецца дадатковы водпуск працягласцю не менш 15 рабочых дзён, а да экзаменаў на атэстат аб сярэдняй адукацыі — не менш 20 рабочых дзён з захаваннем сярэдняй заработнай платы па асноўным месцы работы.

## Артыкул 195. Час прадастаўлення штогадовых водпускаў тым, хто навучаецца ў агульнаадукацыйных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных установах

Пры прадастаўленні работнікам, якія навучаюцца без адрыву ад вытворчасці ў сярэдніх агульнаадукацыйных вячэрніх (зменных) і завочных школах і па накіраванню (заяўцы) наймальніка або ў адпаведнасці з заключанымі з ім дагаворамі (на падрыхтоўку, калектыўным ці працоўным) у сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах па вячэрняй (зменнай) форме навучання, на вячэрніх (зменных) аддзяленнях сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішч, штогадовых водпускаў наймальнік абавязаны адносіць, па іх жаданню, гэтыя водпускі да часу здачы экзаменаў у школах, сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах.

Работнікам, якія навучаюцца без адрыву ад вытворчасці ў сярэдніх агульнаадукацыйных вячэрніх (зменных) і завочных

школах, штогадовыя водпускі могуць прадастаўляцца, па іх жаданню, з такім разлікам, каб яны маглі быць выкарыстаны да пачатку вучэбных заняткаў у школах.

Артыкул 196. **Абмежаванні прыцягнення тых, хто навучаецца ў агульнаадукацыйных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных установах, да звышурочных работ**

Забараняецца прыцягненне да звышурочных работ у дні заняткаў работнікаў, якія навучаюцца без адрыву ад вытворчасці ў сярэдніх агульнаадукацыйных вячэрніх (зменных) і завочных школах і па накіраванню (заяўцы) наймальніка або ў адпаведнасці з заключанымі з ім дагаворамі (на падрыхтоўку, калектыўным ці працоўным) у сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах па вячэрняй (зменнай) форме навучання, на вячэрніх (зменных) аддзяленнях сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішч.

Артыкул 197. **Водпускі ў сувязі з навучаннем у прафесіянальна-тэхнічных навучальных установах**

Работнікам, якія навучаюцца без адрыву ад вытворчасці па накіраванню (заяўцы) наймальніка або ў адпаведнасці з заключанымі з ім дагаворамі (на падрыхтоўку, калектыўным ці працоўным) у сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах па вячэрняй (зменнай) форме навучання, на вячэрніх (зменных) аддзяленнях сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішч, прадастаўляецца дадатковы водпуск для падрыхтоўкі і здачы экзаменаў працягласцю 30 рабочых дзён на працягу года з захаваннем за імі сярэдняй заработнай платы па асноўным месцы работы.

Артыкул 198. **Водпускі для здачы ўступных экзаменаў у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы**

Работнікам, дапушчаным да ўступных экзаменаў у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, прадастаўляецца водпуск без захавання заработнай платы.

Дапушчаным да ўступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы (у тым ліку ў заводы-ВТНУ) прадастаўляецца водпуск працягласцю не менш 15 каляндарных дзён, а ў сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы — не менш 10 каляндарных дзён, не лічачы часу на праезд да месца знаходжання навучальнай установы і назад.



Артыкул 198[1]. **Ільготы для работнікаў, якія навучаюцца на падрыхтоўчых аддзяленнях пры вышэйшых навучальных установах**

Работнікам, якія навучаюцца без адрыву ад вытворчасці на падрыхтоўчых аддзяленнях пры вышэйшых навучальных установах, у перыяд навучальнага года прадастаўляецца, па іх жаданню, не менш чым адзін свабодны ад работы дзень у тыдзень без захавання заработнай платы.

Для здачы выпускных экзаменаў ім прадастаўляецца дадатковы водпуск без захавання заработнай платы працягласцю не менш чым 15 каляндарных дзён, не лічачы часу на праезд да месца знаходжання навучальнай установы і назад.

Артыкул 199. **Ільготы для работнікаў, якія навучаюцца ў вячэрніх і завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах**

Работнікам, якія паспяхова навучаюцца ў вячэрніх і завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах па накіраванню (заяўцы) наймальніка або ў адпаведнасці з заключанымі з ім дагаворамі (на падрыхтоўку, калектыўным ці працоўным), прадастаўляюцца ў якасці мінімальных ільготы, прадугледжаныя артыкуламі 200—204 гэтага Кодэкса і іншым заканадаўствам.

Артыкул 200. **Скарачэнне рабочага часу для тых, хто навучаецца ў вячэрніх і завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах**

Студэнты вячэрніх і завочных вышэйшых навучальных устаноў і навучэнцы вячэрніх і завочных сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў на перыяд 10 навучальных месяцаў перад пачаткам выканання дыпломнага праекта (работы) або здачы дзяржаўных экзаменаў маюць права пры шасцідзённым рабочым тыдні на адзін свабодны ад работы дзень у тыдзень для падрыхтоўкі да заняткаў з аплатай яго ў размеры пяцідзесяці працэнтаў сярэдняй заработнай платы па асноўным месцы работы, але не ніжэй устаноўленай мінімальнай велічыні заработнай платы. Пры пяцідзённым рабочым тыдні колькасць свабодных ад работы дзён змяняецца ў залежнасці ад працягласці рабочай змены пры захаванні колькасці свабодных ад работы гадзін.

Наймальнік мае права прадастаўляць на працягу ўказаных 10 навучальных месяцаў дадаткова, па жаданню студэнтаў і навучэнцаў, штотыднёвыя свабодныя ад работы дні без захавання заработнай платы.

**Артыкул 201. Водпускі ў сувязі з навучаннем у вячэрніх і завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах**

Студэнтам, якія паспяхова навучаюцца ў вячэрніх вышэйшых навучальных установах, на перыяд установачных занят-каў, выканання лабараторных работ, здачы залікаў і экзаменаў штогод прадастаўляецца водпуск на першым і другім курсах — 20 каляндарных дзён, на трэцім і наступных курсах — 30 каляндарных дзён. Навучэнцам, якія паспяхова навучаюцца ў вячэрніх сярэдніх спецыяльных навучальных установах, на перыяд выканання лабараторных работ, здачы залікаў і экзаменаў штогод прадастаўляецца водпуск на першым і другім курсах — 10 каляндарных дзён, на трэцім і наступных — 20 каляндарных дзён.

Студэнтам і навучэнцам, якія паспяхова навучаюцца ў завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, на перыяд установачных заняткаў, выканання лабараторных работ, здачы залікаў і экзаменаў штогод прадастаўляецца водпуск на першым і другім курсах — 30 каляндарных дзён, на трэцім і наступных курсах — 40 каляндарных дзён.

Студэнтам і навучэнцам вячэрніх і завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў на перыяд здачы дзяржаўных экзаменаў прадастаўляецца водпуск 30 каляндарных дзён.

Студэнтам вячэрніх і завочных вышэйшых навучальных устаноў на перыяд падрыхтоўкі і абароны дыпломнага праекта (работы) прадастаўляецца водпуск працягласцю 4 месяцы, а навучэнцам вячэрніх і завочных сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў — 2 месяцы.

За час водпускаў, што прадастаўляюцца ў сувязі з навучаннем у вячэрніх і завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, за работнікамі захоўваецца сярэдняя заработная плата.

**Артыкул 202. Водпуск для азнаямлення з работай па выбранай спецыяльнасці і падрыхтоўкі матэрыялаў да дыпломнага праекта**

Наймальнік па рэкамендацыі адпаведных навучальных устаноў мае права прадастаўляць тым, хто навучаецца на апошніх курсах вячэрніх і завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, дадатковы месячны водпуск без захавання заработнай платы для азнаямлення непасрэдна на вытворчасці з работай па выбранай спецыяльнасці і падрыхтоўкі матэрыялаў да дыпломнага праекта. На перыяд



водпуску студэнты і навучэнцы залічваюцца на стыпендыю на агульных падставах.

**Артыкул 203. Час прадастаўлення штогадовых водпускаў тым, хто навучаецца ў вячэрніх і завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах**

Пры прадастаўленні работнікам, якія навучаюцца без адрыву ад вытворчасці ў вячэрніх і завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, штогадовых водпускаў наймальнік абавязаны адносіць, па іх жаданню, гэтыя водпускі да часу правядзення ўстановачных заняткаў, выканання лабараторных работ, здачы залікаў і экзаменаў у навучальнай установе.

Прадастаўляемыя ўказаным работнікам штогадовыя водпускі могуць адносіцца, па іх жаданню, таксама да часу канікулаў у навучальнай установе.

Работнікам, якія навучаюцца ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах па вячэрняй і завочнай формах навучання, штогадовыя водпускі ў першы год работы могуць прадастаўляцца, па іх жаданню, да сканчэння 11 месяцаў.

**Артыкул 204. Аплата праезду да месца знаходжання завочнай навучальнай установы**

Наймальнік аплачвае навучэнцам у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах па завочнай форме навучання праезд да месца знаходжання навучальнай установы і назад на ўстановачныя заняткі, для выканання лабараторных работ, здачы залікаў і экзаменаў адзін раз у год у размеры пяцідзесяці працэнтаў кошту праезду адпаведным відам транспарту прымяняльна да парадку, устаноўленага заканадаўствам аб службовых камандзіроўках.

Акрамя таго, у такім жа размеры праводзіцца аплата праезду для падрыхтоўкі і абароны дыпломнага праекта (работы) або здачы дзяржаўных экзаменаў.

## Глава XIV
## ПРАЦОЎНЫЯ СПРЭЧКІ

**Артыкул 205. Органы, якія разглядаюць індывідуальныя працоўныя спрэчкі**

Індывідуальныя працоўныя спрэчкі па пытаннях прымянення заканадаўчых і іншых нарматыўных актаў аб працы,

калектыўнага дагавора і іншых пагадненняў аб працы разглядаюцца:

1) камісіямі па працоўных спрэчках;

2) судамі.

Індывідуальныя працоўныя спрэчкі некаторых катэгорый работнікаў разглядаюцца ў асобым парадку (артыкул 224).

Артыкул 206. **Парадак разгляду індывідуальных працоўных спрэчак**

Парадак разгляду індывідуальных працоўных спрэчак камісіямі па працоўных спрэчках і вышэйстаячымі органамі рэгулюецца гэтым Кодэксам, а ў судах вызначаецца, акрамя таго, Грамадзянскім працэсуальным кодэксам Рэспублікі Беларусь.

Устаноўлены гэтым Кодэксам парадак разгляду індывідуальных працоўных спрэчак не распаўсюджваецца на спрэчкі аб датэрміновым вызваленні ад выбарнай платнай пасады работнікаў грамадскіх арганізацый і іншых аб'яднанняў грамадзян па рашэнню органаў, якія іх выбралі.

Артыкул 207. **Камісія па працоўных спрэчках**

Камісія па працоўных спрэчках утвараецца з роўнай колькасці прадстаўнікоў прафсаюза і наймальніка тэрмінам на адзін год.

Па пісьмоваму пагадненню паміж прафсаюзам і наймальнікам або ў выпадках, прадугледжаных у калектыўным дагаворы, камісіі па працоўных спрэчках могуць стварацрца ў падраздзяленнях прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый.

Паўнамоцтвы прадстаўнікоў бакоў пацвярджаюцца даверанасцямі, выдадзенымі ва ўстаноўленым парадку.

Абавязкі старшыні і сакратара на кожным пасяджэнні камісіі па працоўных спрэчках выконваюцца па чарзе прадстаўнікамі бакоў. Пры гэтым абавязкі старшыні і сакратара на адным і тым жа пасяджэнні не могуць выконвацца прадстаўнікамі аднаго боку.

Парадак вядзення справаводства камісіяй па працоўных спрэчках устанаўліваецца па пагадненню паміж наймальнікам і прафсаюзам або ў калектыўным дагаворы.

Арганізацыйна-тэхнічнае забеспячэнне дзейнасці камісіі па працоўных спрэчках ажыццяўляецца наймальнікам.

Артыкул 208. **Кампетэнцыя камісіі па працоўных спрэчках**

Камісія па працоўных спрэчках (калі яна створана) з'яўляецца абавязковым першасным органам па разгляду працоўных спрэчак, за выключэннем выпадкаў, калі гэтым Кодэксам і іншымі заканадаўчымі актамі ўстаноўлены іншы парадак іх разгляду.



Камісія па працоўных спрэчках разглядае спрэчкі работнікаў — членаў адпаведнага прафсаюза, звязаныя з прымяненнем заканадаўства аб працы, калектыўных дагавораў, пагадненняў і іншых лакальных нарматыўных актаў, працоўных дагавораў, у тым ліку аб:

1) устаноўленых расцэнках і нормах працы, а таксама ўмовах для іх выканання;

2) пераводзе на іншую работу і перамяшчэнні;

3) аплаце працы, у тым ліку пры невыкананні норм працы, прастоі і браку, сумяшчэнні прафесій (пасад) і намесніцтве, за работу ў звышурочны і начны час;

4) праве на атрыманне і памеры належных работніку прэмій і ўзнагароджанняў, прадугледжаных дзеючай у наймальніка сістэмай аплаты працы;

5) выплаце кампенсацый і прадастаўленні гарантый;

6) вяртанні грашовых сум, утрыманых з заработнай платы работніка;

7) прадастаўленні водпускаў;

8) выдачы спецвопраткі, спецабутку, сродкаў індывідуальнай абароны, лячэбна-прафілактычнага харчавання.

Работнік — не член прафсаюза мае права па яго выбару звярнуцца ў камісію па працоўных спрэчках або ў суд.

Кампетэнцыя камісій па працоўных спрэчках, створаных у падраздзяленнях прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, вызначаецца па пісьмоваму пагадненню паміж наймальнікам і прафсаюзам ці ў калектыўным дагаворы.

Артыкул 209. **Парадак прыёму заяў, якія паступаюць у камісію па працоўных спрэчках, і тэрмін разгляду працоўных спрэчак**

Заявы работнікаў, якія паступілі ў камісію па працоўных спрэчках, падлягаюць абавязковай рэгістрацыі.

Спрэчка разглядаецца ў прысутнасці работніка, які падаў заяву. Разгляд спрэчкі ў адсутнасць работніка дапускаецца толькі па яго пісьмовай заяве.

Пры няяўцы работніка на пасяджэнне камісіі разгляд заявы адкладваецца. Пры паўторнай няяўцы работніка без уважлівых прычын камісія можа вынесці рашэнне аб зняцці дадзенай заявы з разгляду, што не пазбаўляе работніка права падаць заяву зноў.

Камісія па працоўных спрэчках мае права выклікаць на

пасяджэнне сведак, запрашаць спецыялістаў, прадстаўнікоў прафсаюзаў і іншых грамадскіх арганізацый. Па патрабаванню камісіі наймальнік абавязаны прадстаўляць неабходныя разлікі і дакументы.

На пасяджэнні камісіі вядзецца пратакол, які падпісваецца старшынёй і сакратаром камісіі.

Камісія па працоўных спрэчках абавязана разгледзець працоўную спрэчку ў дзесяцідзённы тэрмін.

Артыкул 210. **Парадак прыняцця рашэння камісіяй па працоўных спрэчках**

Камісія па працоўных спрэчках прымае рашэнне па пагадненню паміж прадстаўнікамі наймальніка і прафсаюза.

Рашэнне камісіі мае абавязковую сілу і зацвярджэнню наймальнікам ці прафсаюзам не падлягае.

У рашэнні ўказваюцца: наймальнік; прозвішча, імя, імя па бацьку работніка, які звярнуўся ў камісію; даты звяртання ў камісію і разгляду спрэчкі; сутнасць спрэчкі; прозвішчы членаў камісіі, якія прысутнічалі на пасяджэнні; матываванае рашэнне камісіі.

Копіі рашэння камісіі ў трохдзённы тэрмін уручаюцца работніку і наймальніку.

Артыкул 211. **Абскарджанне рашэння камісіі па працоўных спрэчках**

Рашэнне камісіі па працоўных спрэчках можа быць абскарджана работнікам або наймальнікам, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных артыкулам 224 гэтага Кодэкса, у суд у дзесяцідзённы тэрмін з дня ўручэння ім копіі рашэння камісіі ці з дня, калі копія рашэння павінна быць выдадзена.

Пропуск указанага тэрміну не з'яўляецца падставай да адмовы ў прыёме заявы.

Артыкул 212. **Гарантыі для членаў камісіі па працоўных спрэчках**

У адносінах да работнікаў — членаў камісіі па працоўных спрэчках у перыяд ажыццяўлення іх паўнамоцтваў не дапускаецца скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка (за выключэннем выкліканага вінаватымі дзеяннямі, прадугледжанымі пунктамі 3, 4, 7 і 8 артыкула 33, пунктамі 1—3 артыкула 254 гэтага Кодэкса і іншымі заканадаўчымі актамі, а таксама выпадкаў ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі, спынення дзейнасці прадпрымальніка), паніжэнне акладу або тарыфнай стаўкі.

Артыкул 213 выключаны.



Артыкул 214. **Разгляд працоўных спрэчак у судзе**

У судзе разглядаюцца працоўныя спрэчкі па заяве:

1) работніка або наймальніка, калі яны не згодны з рашэннем камісіі па працоўных спрэчках;

2) работніка, калі камісія па працоўных спрэчках не разгледзела яго заяву ва ўстаноўлены дзесяцідзённы тэрмін;

3) пракурора, калі рашэнне камісіі па працоўных спрэчках супярэчыць заканадаўству.

Непасрэдна ў судзе разглядаюцца працоўныя спрэчкі па заявах:

1) работнікаў, якія працуюць у наймальнікаў, дзе камісіі па працоўных спрэчках не створаны;

2) работнікаў — не членаў прафсаюза, калі яны не звярнуліся ў камісію па працоўных спрэчках;

3) работнікаў аб аднаўленні на рабоце незалежна ад падстаў спынення працоўнага дагавора, аб змяненні даты і фармулёўкі прычыны звальнення, аб аплаце за час вымушанага прагулу або выканання ніжэйаплатнай работы, за выключэннем спрэчак работнікаў, для якіх прадугледжаны іншы парадак іх разгляду;

4) наймальнікаў аб пакрыцці работнікамі прычыненага ім матэрыяльнага ўрону;

5) работнікаў па пытанню прымянення працоўнага заканадаўства, якое ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам было вырашана наймальнікам і прафсаюзам у межах прадастаўленых ім правоў;

6) работнікаў аб адмове наймальніка ў складанні акта аб няшчасным выпадку ці нязгодзе з яго зместам.

Непасрэдна ў судзе разглядаюцца таксама спрэчкі аб адмове ў заключэнні працоўнага дагавора з:

1) асобамі, запрошанымі на работу ў парадку пераводу ад іншага наймальніка;

2) маладымі спецыялістамі, закончыўшымі вышэйшую або сярэднюю спецыяльную навучальную ўстанову, аспірантамі (дактарантамі), завяршыўшымі навучанне ў вочнай аспірантуры (дактарантуры), асобамі, закончыўшымі прафесіянальна-тэхнічную навучальную ўстанову, і накіраванымі ва ўстаноўленым парадку на работу да пэўнага наймальніка;

3) іншымі асобамі, з якімі наймальнік у адпаведнасці з заканадаўствам абавязаны заключыць працоўны дагавор.

Артыкул 215. **Аб тэрмінах звяртання за вырашэннем працоўных спрэчак**

Работнікі могуць звяртацца ў камісію па працоўных спрэчках або ва ўстаноўленых заканадаўчымі актамі выпадках у суд у трохмесячны тэрмін з дня, калі яны даведаліся або павінны былі даведацца аб парушэнні свайго права, а па справах аб звальненні — у суд у месячны тэрмін з дня ўручэння копіі загаду аб звальненні або з дня выдачы працоўнай кніжкі з запісам аб падставе спынення працоўнага дагавора ці з дня адмовы ў выдачы або атрыманні ўказаных дакументаў.

Для звяртання наймальніка ў суд па пытаннях спагнання матэрыяльнага ўрону, прычыненага яму работнікам, устанаўліваецца тэрмін у адзін год з дня выяўлення ўрону.

У вышэйстаячы орган, правамоцны прыняць рашэнне па спрэчцы, заява падаецца работнікам у трохмесячны тэрмін, а па пытанню звальнення — у месячны тэрмін з дня ўручэння яму копіі пастановы, загаду (распараджэння) аб прымяненні спагнання, звальненні або з дня выдачы працоўнай кніжкі з запісам аб падставе спынення працоўнага дагавора ці з дня адмовы ў выдачы або атрыманні ўказаных дакументаў.

Указаныя ў частках першай і другой гэтага артыкула тэрміны прымяняюцца пры звароце ў суд вышэйстаячага органа або пракурора.

Пры пропуску па ўважлівых прычынах тэрмінаў, устаноўленых у гэтым артыкуле, яны могуць быць адноўлены адпаведна камісіяй па працоўных спрэчках, судом або вышэйстаячым органам.

Скаргі, пададзеныя па сканчэнні трох гадоў з моманту ўступлення ў законную сілу рашэння суда або рашэння вышэйстаячага органа аб адмове ў аднаўленні на рабоце, разгляду не падлягаюць.

Артыкул 216 выключаны.

Артыкул 217. **Аднаўленне на рабоце, на ранейшым рабочым месцы, ранейшых істотных умоў працы**

У выпадках спынення працоўнага дагавора без законнай падставы, а таксама незаконнага пераводу, перамяшчэння, змянення істотных умоў працы ці адхілення ад работы (артыкулы 25 і 38) орган, які разглядае працоўную спрэчку, аднаўляе работніка на ранейшай рабоце, на ранейшым рабочым месцы, ранейшыя істотныя ўмовы працы.



Артыкул 218. **Аплата за час вымушанага прагулу або выканання ніжэйаплатнай работы**

У выпадках аднаўлення работніка на ранейшай рабоце, а таксама змянення фармулёўкі прычыны звальнення, якая перашкаджала паступленню работніка на новую работу, яму выплачваецца сярэдні заработак за час вымушанага прагулу, але не больш чым за два гады.

Пры незаконным пераводзе, перамяшчэнні, змяненні істотных умоў працы, адхіленні ад работы работніку выплачваецца па рашэнню органа, які разглядаў працоўную спрэчку, сярэдні заработак за час вымушанага прагулу або розніца ў заработку за час выканання ніжэйаплатнай работы, але не больш чым за два гады.

Наймальнік можа правесці выплаты, прадугледжаныя гэтым артыкулам, пры адсутнасці рашэння органа па разгляду працоўных спрэчак.

Артыкул 219. **Ускладанне матэрыяльнай адказнасці на службовую асобу, вінаватую ў незаконным звальненні, пераводзе, перамяшчэнні, змяненні істотных умоў працы, адхіленні ад работы**

Суд ускладае на службовую асобу, вінаватую ў незаконным звальненні, пераводзе, перамяшчэнні, змяненні істотных умоў працы, адхіленні ад работы, абавязак пакрыць урон, прычынены ў сувязі з аплатай за час вымушанага прагулу або выканання ніжэйаплатнай работы. Такі абавязак ускладаецца, калі звальненне, перавод, перамяшчэнне, змяненне істотных умоў працы або адхіленне ад работы праведзены з яўным парушэннем закона, а таксама пры затрымцы выканання рашэння суда або вышэйстаячага органа аб аднаўленні работніка на рабоце, ранейшым рабочым месцы, ранейшых істотных умоў працы.

Артыкул 220. **Неадкладнае выкананне некаторых рашэнняў і пастаноў па працоўных справах**

Рашэнне, прынятае органам па разгляду працоўных спрэчак, па пытаннях, указаных у артыкуле 217 гэтага Кодэкса, падлягае неадкладнаму выкананню. Калі наймальнік затрымаў выкананне такога рашэння або пастановы, то за час затрымкі з дня вынясення рашэння або пастановы па дзень яго выканання работніку выплачваецца сярэдні заработак або розніца ў заработку.

Неадкладнаму выкананню ў адпаведнасці з артыкулам 204 Грамадзянскага працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь

падлягае таксама рашэнне суда аб прысуджэнні работніку заработнай платы, але не звыш чым за адзін месяц.

Артыкул 221. **Тэрмін выканання рашэння камісіі па працоўных спрэчках**

Рашэнне камісіі па працоўных спрэчках падлягае выкананню наймальнікам не пазней чым у трохдзённы тэрмін па сканчэнні дзесяці дзён, прадугледжаных на іх абскарджанне.

Артыкул 222. **Прымусовае выкананне рашэння камісіі па працоўных спрэчках**

У выпадку невыканання наймальнікам рашэння камісіі па працоўных спрэчках ва ўстаноўлены тэрмін (артыкул 221) яна выдае работніку пасведчанне, якое мае сілу выканаўчага ліста.

Пасведчанне не выдаецца, калі работнік або наймальнік звярнуліся ва ўстаноўлены тэрмін з заявай аб вырашэнні працоўнай спрэчкі ў суд (артыкул 215).

У пасведчанні ўказваюцца: назва камісіі, якая вынесла рашэнне па працоўнай спрэчцы; даты яго прыняцця і выдачы пасведчання; прозвішча, імя, імя па бацьку работніка; рашэнне па сутнасці спрэчкі. Пасведчанне завяраецца подпісам старшыні і сакратара камісіі.

На падставе выдадзенага і прад'яўленага не пазней трохмесячнага тэрміну ў суд пасведчання судовы выканаўца прыводзіць рашэнне камісіі па працоўных спрэчках у выкананне ў прымусовым парадку.

Пры пропуску работнікам устаноўленага трохмесячнага тэрміну па ўважлівых прычынах камісія па працоўных спрэчках, якая выдала пасведчанне, можа аднавіць гэты тэрмін.

Артыкул 223. **Абмежаванні спагнання сум, выплачаных па рашэнню органаў, якія разглядаюць працоўныя спрэчкі**

Зваротнае спагнанне з работніка сум, выплачаных яму па рашэнню камісіі па працоўных спрэчках, пры далейшым іншым вырашэнні працоўнай спрэчкі, а таксама сум, выплачаных па судоваму рашэнню па працоўнай спрэчцы, пры адмене рашэння ў парадку нагляду дапускаецца толькі ў тых выпадках, калі адмененае рашэнне было заснавана на паведамленых работнікам ілжывых звестках або прадстаўленых ім падложных дакументах.



Артыкул 224. **Разгляд працоўных спрэчак некаторых катэгорый работнікаў**

Працоўныя спрэчкі работнікаў, якія выбіраюцца, назначаюцца, зацвярджаюцца на пасады Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, назначаюцца на пасады пастановамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, выбіраюцца на пасады мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў, па пытаннях вызвалення ад пасады, змянення даты і фармулёўкі прычын вызвалення, пераводу на іншую работу, аплаты за час вымушанага прагулу або выканання ніжэйаплатнай работы, накладання дысцыплінарных спагнанняў разглядаюцца ў парадку, устаноўленым заканадаўчымі актамі.

Працоўныя спрэчкі суддзяў, пракурораў, іх намеснікаў і памочнікаў, следчых пракуратуры па пытаннях спынення працоўнага дагавора, змянення даты і фармулёўкі прычын звальнення, пераводу на іншую работу, аплаты за час вымушанага прагулу або выканання ніжэйаплатнай работы і накладання дысцыплінарных спагнанняў разглядаюцца вышэйстаячымі органамі.

Артыкул 224[1]. **Парадак разгляду працоўных спрэчак вышэйстаячым органам**

Вышэйстаячы орган абавязаны разгледзець працоўную спрэчку ў прысутнасці работніка ў месячны тэрмін з дня паступлення яго заявы. Разгляд спрэчкі ў адсутнасці работніка дапускаецца толькі па яго пісьмовай заяве або пры яго няяўцы без уважлівых прычын па паўторнаму выкліку.

Орган, які разглядае спрэчку, мае права запрасіць прадстаўніка органа дзяржаўнай улады або кіравання, прыняўшага рашэнне, што аспрэчваецца, а таксама прадстаўніка прафсаюза і іншых грамадскіх арганізацый.

Рашэнне вышэйстаячага органа па працоўнай спрэчцы павінна быць заснавана на заканадаўстве і матывавана.

У выпадку звальнення работніка або прымянення да яго дысцыплінарнага спагнання без законнай падставы вышэйстаячы орган прымае рашэнне аб адмене пастановы, загаду (распараджэння).

Копіі рашэння вышэйстаячага органа ў трохдзённы тэрмін пасля разгляду спрэчкі па сутнасці накіроўваюцца або ўручаюцца работніку, а таксама органу, дзеянні якога былі абскарджаны.

Пры разглядзе працоўнай спрэчкі аб дысцыплінарным спагнанні вышэйстаячы орган не мае права прымяніць да работніка больш строгую меру дысцыплінарнага спагнання, але можа замяніць прымененую меру на больш мяккую з улі-

кам канкрэтных абставін, пры якіх учынена дысцыплінарная правіннасць, папярэдняй работы і паводзін работніка.

Пры затрымцы выканання адпаведнага рашэння вышэйстаячага органа рашэнне аб выплаце сярэдняга заработку або розніцы ў заработку за час затрымкі прымае гэты орган.

Артыкул 225. **Аднаўленне на рабоце і аплата за вымушаны прагул па рашэнню вышэйстаячага органа**

У выпадку аднаўлення работніка на ранейшай рабоце па рашэнню вышэйстаячага органа праводзіцца выплата сярэдняга заработку за час вымушанага прагулу або розніцы ў заработку за час выканання ніжэйаплатнай работы. Пры гэтым адпаведна прымяняюцца артыкулы 218—220 гэтага Кодэкса.

Артыкул $225^{1}$. **Задавальненне грашовых патрабаванняў**

Пры разглядзе працоўных спрэчак па пытаннях аб грашовых патрабаваннях, акрамя патрабаванняў аб выплаце работніку сярэдняга заработку за час вымушанага прагулу або розніцы ў заработку за час выканання ніжэйаплатнай работы (артыкулы 218 і 225), орган, які разглядае спрэчку, мае права вынесці рашэнне аб выплаце работніку сум, якія падлягаюць выплаце, не болей чым за тры гады.

Артыкул 226. **Парадак разгляду спрэчак аб устанаўленні або змяненні ўмоў працы**

Працоўныя спрэчкі аб устанаўленні работніку новых або змяненні існуючых умоў працы вырашаюцца наймальнікам і адпаведным прафсаюзам у межах прадастаўленых ім правоў.

Артыкул 227. **Парадак вырашэння калектыўных працоўных спрэчак (канфліктаў)**

Калектыўныя працоўныя спрэчкі (канфлікты) вырашаюцца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам.

## Глава XV
## ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫЯ САЮЗЫ. УДЗЕЛ РАБОТНІКАЎ У КІРАВАННІ ПРАДПРЫЕМСТВАМІ, УСТАНОВАМІ, АРГАНІЗАЦЫЯМІ

Артыкул 228. **Права работнікаў на аб'яднанне ў прафесіянальныя саюзы**

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь работнікі маюць права на аб'яднанне ў прафесіянальныя саюзы.

Парадак стварэння прафсаюзаў і іх правы вызначаюцца заканадаўствам.



Артыкул 229 выключаны.

Артыкул 230. **Права работнікаў на ўдзел у кіраванні прадпрыемствам, установай, арганізацыяй**

Удзел работнікаў у кіраванні прадпрыемствам, установай, арганізацыяй ажыццяўляецца на аснове сацыяльнага партнёрства з наймальнікам праз агульныя сходы (канферэнцыі) працоўнага калектыву, прафсаюзы і іншыя органы, якія ствараюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам, статутам прадпрыемства і рашэннямі працоўнага калектыву.

Наймальнік абавязаны ствараць умовы, якія забяспечваюць удзел работнікаў у кіраванні прадпрыемствам, установай, арганізацыяй.

Артыкулы 231—237 выключаны.

Артыкул 238. **Гарантыі для асоб, выбраных у прафсаюзныя органы**

Скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка (за выключэннем выкліканага вінаватымі дзеяннямі работніка, прадугледжанымі пунктамі 3, 4, 7 і 8 артыкула 33, пунктамі 1—3 артыкула 254 гэтага Кодэкса і іншымі заканадаўчымі актамі) з работнікамі, выбранымі ў склад прафсаюзных органаў і не вызваленымі ад работы, дапускаецца, апрача захавання агульнага парадку, толькі пасля папярэдняга, не менш чым за два месяцы, пісьмовага паведамлення прафсаюзнаму органу, членамі якога яны выбраны.

Скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка (за выключэннем выклiканага вінаватымі дзеяннямі работніка, прадугледжанымі пунктамі 3, 4, 7 і 8 артыкула 33, пунктамі 1—3 артыкула 254 гэтага Кодэкса і іншымі заканадаўчымі актамі) з кіраўнікамі прафсаюзных органаў, якія дзейнічаюць на дзяржаўных прадпрыемствах, ва ўстановах, у арганізацыях, не вызваленымі ад работы, дапускаецца, апрача захавання агульнага парадку, толькі з папярэдняй згоды кіруючага органа прафсаюзнай арганізацыі, якая дзейнічае на дадзеным прадпрыемстве, ва ўстанове, у арганізацыі.

Асобам, вызваленым ад работы (пасады) у сувязі з выбраннем на выбарныя пасады ў прафсаюзных органах, якія дзейнічаюць на дзяржаўных прадпрыемствах, ва ўстановах, у арганізацыях, пасля заканчэння іх паўнамоцтваў па выбарнай пасадзе прадастаўляецца ранейшая работа (пасада) на тым жа прадпрыемстве, ва ўстанове, у арганізацыі.

Пры скарачэнні колькасці або штату работнікаў асобам, выбраным у склад прафсаюзных органаў, прадастаўляецца пры іншых роўных умовах пераважнае права на пакіданне

